PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 48 (1855) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 1 СНЕЖНЯ 1991 г. ЦАНА 1000 зл.



Тэатр у Гродне. *Фота М. Лукшы.*

## ДНІ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

13 лістапада ў Гародні пачаліся Дні культуры Беласточчыны. Праграма свята была цікавай і разнастайнай. Яшчэ да ўрачыстага адкрыцця Дзён беластоцкія лялечнікі паказалі ў Абласным тэатры лялек спектакль „Крэсіва" паводле казкі Андэрсена ў рэжысуры Б. Кабжынскага. У гэты ж дзень папалудні госці завіталі пад помнік Элізе Ажэшкі і ўсклалі пад ім кветкі. У Музеі гісторыі рэлігіі адкрыліся дзве выставы, адна — „Ян Павел ІІ у Беластоку" — прадстаўляла 1000 фотаздымкаў Я. Харашухі, А. Сакульскага і П. Савіцкага, другая — „Знакі памяці" (прыдарожныя каплічкі) была аўтарства Віктара Волкава; былі прадстаўлены рэзьбы Войцеха Залэнскага.

Урачыстае адкрыццё свята культуры адбылося ўвечары ў зале Абласнога драматычнага тэатра. Начальнік упраўлення культуры аблвыканкама В. Брыкач прадставіў гасцей: Беластоцкага віцэ-ваяводу А. Усакевіча, прэзідэнта горада Беластока Л. Руткоўскага, старшыню БГКТ А. Баршчэўскага, прэзідэнта Беластоцкага таварыства культуры Ю. Яворскага, начальніка аддзела культуры ваяводскай управы Э. Біль-Яруээльскага, дырэктара ваяводскага Дома культуры К. Дэркоўскага, намесніка старшыні Таварыства прыяцеляў Гародні і Вільні Б. Чарнэцкую. Быў уручаны святочны каравай. Выступіў сімфанічны аркестр Беластоцкай філармоніі, дырыжыраваў Міраслаў Яцэк Блашчык. Слухачам асабліва спадабалася выкананне „Казкі" Станіслава Манюшкі. Да канцэрта была выпушчана праграмка на польскай і беларускай мовах. Вечарам у драмтэатры была адкрыта выстаўка жывапісу Стэфана Рыбія.

У кінатэатры „Кастрычнік", што ў гатэлі „Гродна", пачаў працу клуб „Беласток", у якім прэзентаваліся дакументальны фільм „Беласток — мой горад" і польскія камедыйныя відэафільмы, была адкрыта выстава фотаздымкаў з І міжнароднага фестывалю песні „Беластоцкія мальвы-91", можна было купіць музычныя плакаты, касеты, грампласцінкі.

У Ваўкавыску ў той дзень выступілі кабарэ „Шпілька" і сямяцкія „Сланечнікі".

14 лістапада (чацвер) у Выставачнай зале Саюза мастакоў адкрылася выстава графікі Анджэя Дваракоўскага. Вельмі прыемна было пачуць беларускую мову прадстаўніка Саюза мастакоў Беларусі, які вітаў артыста і гасцей. Вечарам у Доме народнай творчасці (вул. Савецкая 8; варта там наведаць цікавы музей) выступіла джазавая вакалістка і педагог Галена Мяшкунец, а ў клубе „Кастрычнік" Маладзёжная тэатральная група „Адэпты" (апякун і рэжысёр —

( Працяг на стар. 8 )

******************************************************************************************

## ДА ПРАЦЫ ТРЭБА МЕЦЬ ЗАМІЛАВАННЕ

**Размова з УЛАДЗІМІРАМ ГУРАЛЕЎСКІМ з Рыбалаў, шматгадовым лістаношам, кальпарцёрам, карэспандэнтам „Нівы".**

— Я паходжу з Нарвы, але ўжо амаль ад самай вайны жыву ў Рыбалах. Тут ажаніўся, тут у мяне свая хата. Ад 1946 года да 1954-га працаваў я ў міліцыі, у Рыбалах, у Войшках, у Бельску. Адыйшоў адтуль па сваёй просьбе і стаў лістаношам. На пошце прапрацаваў я да 1981 года, потым пару гадоў на паўштату, аж нарэшце пайшоў цалкам на пенсію. Калі я працаваў на пошце, у мяне было найбольш падпісчыкаў на „Ніву" ў цэлым Бельскім павеце. Быў такі Весялоўскі ў Пасынках, мы з ім сапернічалі, то ў яго больш экземпляраў „Нівы" разыходзілася, то ў мяне — тады я развозіў па 200 штук гэтай газеты. У Паўлах, Канюках, Давідовічах (Стрэльцах), Цялушках амаль у кожнай хаце была „Ніва". Заходзіў я да ўсіх, нават да старэнькіх бабуль і намаўляў, каб падпісваліся на „Ніву". Падумае такая бабуля і кажа: „То пішыце, і так папера ў хаце патрэбна". За працу на пошце быў я нават узнагароджаны медаллю „Przodownik Pracy Socjalistycznej".

— *Калі найбольш „Нівы" разыходзілася?*

— Ад пачатку, ад моманту яе з'яўлення ў мяне было ўсё больш і больш падпісчыкаў. І так аж да канца мае працы на пошце.

— *А як Вы самі пачалі пісаць у „Ніву"?*

— Памятаю сваю першую карэспандэнцыю, пра Наталлю Бараноўскую. Была такая настаўніца пасля вайны ў Паўлах, працавала яна ў вельмі цяжкіх умовах, без аніякіх дапаможнікаў. Вучыла дзяцей лічыць на палачках, на гарошынах. Апісаў я гэта ўсё, прынялі, надрукавалі. Пісаў я па-польску, але пераклалі вельмі элегантна, слова ў слова, нігачусенькі не змянілі. Потым напісаў я, як жыхары Паўлаў ачысцілі ад снегу дарогу, трактарам, самі зрабілі такі вялікі драўляны плуг. Пісаў я таксама пра добрых гаспадароў, прыводзіў прозвішчы тых, напрыклад, хто першы пасеяў збожжа.

— *Як людзі гэта ўспрымалі?*

— Добра, вельмі добра. Лічылі вялікім гонарам быць у газеце. Я стараўся не пісаць пра дрэнныя справы, крытыкаваць. Хаця здараліся і такія матэрыялы, але прасіў я рэдакцыю не змяшчаць пад імі майго сапраўднага прозвішча. Апошнім часам нешто не пішу, але думаю зноў да гэтага вярнуцца. Ёсць некалькі спраў, пра якія напісаць можна было б.

— *Абавязкова трэба. З распаўсюджваннем „Нівы", наколькі мне вядома, не парвалі Вы і на пенсіі.*

— Так, я раблю гэта цэлы час, бо маю замілаванне. Без такога замілавання чалавек не змог бы 35 гадоў цягацца на ровары і ў снег, і ў дождж. Цяпер „Ніву" прывозіць самаходам да бацюшкі, я ў яго бяру, сядаю на ровар і развожу па людзях. У Рыбалах разыходзіцца 34 экземпляры, у школе 14 і ў Войшкі вязу 5 паасобнікаў. Іншы на маім месцы ленаваўся б з пяццю газетамі цягнуцца ў другую вёску. Ад аднаго экземпляра плацяць мне 100 злотых, я спачатку і гэтых браць не хацеў, але бацюшка мне сказаў: бяры, яны табе належацца. З прыкрасцю мушу сказаць, што апошнім часам згубіў я пару чытачоў „Нівы", а ведаеце чаму — таму, што няма праграмы тэлебачання. Што такое сталася, чаму „Ніва" перастала друкаваць



*Уладзімір Гуралеўскі: „Сядаю на ровар і развожу „Ніву" па людзях.* Фота М. Ваўранюка

( Працяг на стар. 8 )

## НА мяжы

### ДЗВЕ ЎРАЧЫСТАСЦІ

— 2 —

У той частцы універсітэцкай урачыстасці, якая была прысвечана прывітанням, старшыня сходу даў голас і мне. Мне здалося, што не маю права абмяжоўвацца банальнымі і пустаслоўнымі сцвярджэннямі. І таму пастанавіў прамовіць да тысячы людзей, каб гэта служыла справе беларускага адраджэння. Вось скарочаны тэкст маёй прамовы:

„Шаноўныя калегі, студэнты і навуковыя супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Беларускі дзяржаўны універсітэт з'яўляецца духоўнай каштоўнасцю, якая належыць не толькі Беларускай Рэспубліцы, але ўсім беларусам, якія воляй ці няволяй апынуліся ў шырокім свеце, у тым ліку і беларусам з Польшчы. Я не з'яўляюся сынам беларускай дзяржавы, але з'яўляюся сынам беларускай нацыі. Трэба адназначна сказаць, што надышоў час нашай вялікай нацыянальнай споведзі, у тракце якой мусім сказаць, што ўсе мы эфектна і паспяхова папрацавалі над тым, каб глыбока ў гразь утаптаць беларускую мову, беларускі гонар і беларускую душу. Сёння наш абавязак заключаецца ў тым, каб нацыянальную мову, нацыянальны гонар і нацыянальную душу падняць з гразі, ачысціць і ўзняць высока да сонца. Беларусь мусіць стацца Беларуссю. На працягу многіх дзесяткаў гадоў у нашай краіне было цяжка прыхільнікам беларускасці і лёгка русіфікатарам. Новае ў сённяшняй сітуацыі заключаецца ў тым, што ў далейшым цяжка прыхільнікам беларускасці, але становіцца цяжка і русіфікатарам. Веру, што заўтра нам будзе лягчэй, а Хацеў бы я перадаць Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту найлепшыя пажаданні ад імя студэнтаў і навуковых супрацоўнікаў Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, ад імя членаў і сімпатыкаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства, а таксама ад імя беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы".

Мабыць, таму, што маё выступленне як ніякае іншае, моцна загучэла нацыянальным духам, апладысменты

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

ім будзе цяжэй. Гаворачы гэта, не кіруюся нянавісцю да рускіх. Пашану да Расіі вынес я з бацькоўскага дому, аднак лічу, што нідзе ў свеце, у тым ліку і на Беларусі, госць не можа адчуваць сябе так, як гаспадар, а гаспадар — як госць. Гэту праўду мусяць зразумець рускія ў Беларусі.

Жывем у пераломны час, у час адраджэння Беларусі. У гэтым высакародным працэсе мусіць старацца адыграць актыўную ролю кожны беларус. Сказанае датычыць і такой вялікай установы, як Беларускі дзяржаўны універсітэт, які мае перад сабой магчымасць удзельнічаць у вялікай гістарычнай місіі нацыянальнага рэнесансу.

слухачоў былі імпануючыя.

Пасля афіцыйнай часткі адбылася цудоўная мастацкая частка. Аглядаючы яе, мне вельмі хацелася, каб многія з выступаючых калектываў прыехалі на Беласточчыну.

Урачыстасць закончылася буйным банкетам, на які быў запрошаны і я. Узнімалі доўгія шматслоўныя тосты дзесяткі ўдзельнікаў. Мяне да голасу не дапусцілі, мабыць, пабаяліся, каб я ізноў не нагаварыў чагосьці нацыяналістычнага. І дарэмна, бо я хацеў падняць тост за прыгожую жонку рэктара. І якраз у часе тостаў праявілася нешта такое, што сведчыла аб дасканалым стане духа і самаўпэўненасці русіфікатараў на Беларусі. З вельмі доўгім тостам выступіў запрошаны на урачыстасць дырэктар Завода „Гарызонт". Як аказалася, дырэктар быў па нацыянальнасці рускі. І вось гэты чалавек ростам каля метра шасцідзесяці, прахаджваючыся між сталоў уперад і назад, трымаючы руку ў кішэні, аблаяў як толькі ўмеў прыхільнікаў незалежнасці Беларусі. Паіменна збэсціў Ніла Гілевіча за яго дзеянні ў Вярхоўным Савеце, утаптаў у гразь ідэю незалежнасці Беларусі, даказваючы, што будзе яна толькі пазбаўленай сэнсу паперкай. Я слухаў гэтага рускага напалеонца і драпцеў са страху, думаючы, колькі такіх тыпаў ходзіць па рускай зямлі. А самае страшнае ў тым, што апрача Ніла Гілевіча ніхто не даў адпору гэтаму заядламу русіфікатару. Людзі навукі, цвет беларускай інтэлігенцыі, дазволілі, каб русіфікатар наплюваў ім у твар. Гледзячы на гэта, зразумеў я, як многа яшчэ трэба часу, каб вызваліць наш беларускі гонар з-пад чужынскай пяты.

І так прыгожае светлае мерапрыемства здолеў накрыць змрокам адзін, усяго адзін русіфікатар. Будзем спадзявацца, што на наступным „годдзі" універсітэта, такіх людзей ужо не будзе.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

*****************************************************************************

## З мінулага тыдня

**Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь** вырашыў, што ўсе тавары — прамысловыя і харчовыя, якія завозяцца з Польшчы ў Беларусь, будуць звольнены ад пошліны і імпартных падаткаў. Пастанова аб развіцці гандлю і гаспадарчага супрацоўніцтва з Польшчай прадбачвае адкрыццё консульстваў і гандлёвых прадстаўніцтваў, а на супольнай мяжы — два дадатковыя кантрольна-прапускныя пункты.

**Пасол СССР у Польшчы Юрый Кашлеў** прабываў з візітам у Сувальскім ваяводстве. На пытанне журналістаў, чаму гандлёвае і гаспадарчае супрацоўніцтва паміж Польшчай і СССР ды паасобнымі рэспублікамі абмяжавалася, пасол адказаў: „Абодва бакі зрабілі тую самую памылку. Надта хутка, памойму, перайшлі мы на валютныя разлікі. Трэба было гэта рабіць, але паступова, не адразу. Ніхто на гэта не быў адпаведна падрыхтаваны".

**Востры пратэст** супраць паводзін савецкай міліцыі, функцыянеры якой 17 лістапада г.г. на гранічным пункце ў Шагінях пабілі польскіх турыстаў, быў даручаны ў Міністэрстве замежных спраў саветніку пасольства СССР у Варшаве **Івану Доўгаму**.

**Міжнародная канферэнцыя** па справах супрацоўніцтва прыгранічных раёнаў Польшчы, Беларусі, Расіі і Украіны адбылася ў Белавежы. Яе ўдзельнікі дыскутавалі над формамі і тэмамі суседскага садзеяння ў галіне прасторавага планавання.

**Саюз надбужанскіх гмінаў** імкнуцца стварыць паўднёвыя гміны Беластоцкага ваяводства. Адна з мэт гэтага ўтварэння — супольная рэалізацыя гаспадарчых і культурных ініцыятываў.

**У адказ на прапанову Беластоцкай акругі Канфедэрацыі незалежнай Польшчы перайменаваць вуліцу Савецкай Арміі ў Беластоку** на вуліцу Францішка Скарыны Камісія па арганізацыйных справах і супрацоўніцтву з самаўрадамі Гарадской рады ў Беластоку паведаміла, што гэтай вуліцы будзе вернута ранейшая назва — **Баранавіцкая**. Старшыня гэтай камісіі піша: „Спадзяюся, што постаць Францішка Скарыны, якая сімвалізуе добрыя традыцыі польска-беларускіх адносін, будзе ў адпаведнай форме ўвекавечана ў нашым горадзе. Прысваенне адной з вуліц яго імя было б найбольш адпаведнай формай, аднак гэта залежыць будзе ад волі жыхароў".

*З настаўніцкай канферэнцыі*

## ЗААНГАЖАВАННЕ ПЕРШ ЗА ЎСЁ

18 лістапада бягучага года ў Пачатковай школе н-р 3 у Бельску-Падляшскім адбылася канфе-рэнцыя настаўнікаў беларускай мовы. Вяла яе шматгадовы, вопытны метадыст Тамара Русачык.

Найбольш месца ў канферэнцыі было адведзена вершам Максіма Багдановіча, 100-годдзе з дня нараджэння якога прыпадае сёлета. Гэтую тэму дасканала прадставіла, выкарыстоўваючы розныя прыёмы і дапаможнікі, Тамара Русачык. Даклад і экспанаты, сабраныя ў кабінеце беларускай мовы, зрабілі на прысутных незабыўнае ўражанне.

Апрача асноўнай былі абмеркаваны яшчэ тэмы: „Праблематыка новых крытэрыяў ацэнкі вучня", „Як працаваць са слоўнікам і ўзбагачаць лексікальныя веды вучняў пачатковых класаў".

Сваім вопытам у правядзенні цікавых урокаў падзяліліся настаўніцы Анна Шыманская з Орлі і Галена Тапалянская з Трасцянкі. Заахвочвалі яны да большага заангажавання на культурнай ніве. Закранаі таксама тэму аўтарскіх сустрэч у школах. Сёлета актыўна праводзіць іх толькі адзін беластоцкі пісьменнік, член Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Пабываў ён у школах у Ляўкове, Нараўцы, Семяноўцы, Ляшуках, Трасцянцы, Ласінцы і Новым Беразове. Усюды карыс-таліся яны вялікім зацікаўленнем.

Настаўнікам неабходны матэрыялы па методыцы навучання беларускай мовы. Дапамагчы ім у іх атрыманні паабяцалі намеснік старшыні Галоўнага праўлення БГКТ Янка Сычэўскі і дырэктар Ваяводскага метадычнага асяродка д-р Аляксандр Малеша.

Метадыст Т. Русачык заахвочвала настаўнікаў да штудзіравання на Кафедры беларускай мовы Варшаўскага універсітэта. Неабходна арганізаваць курсы для настаўнікаў беларусістаў у час летніх канікулаў у Менску. У мінулым годзе іх не было.

Была створана Асветная камісія ў складзе: Тамара Русачык (Бельск), Вольга Сянкевіч (Гайнаўка), Анна Шыманская (Орля), Ніна Абрамюк (Нарва), Васіль Сегень (Стары Корнін), Галена Тапалянская (Трасцянка). Правядзе яна ацэнку некаторых дагэтуляшніх падручнікаў.

Сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч расказала пра конкурсы для школьнай моладзі: дэкламатарскія і песеннага, а таксама вучнёўскіх драмгурткоў. Дагэтуляшняя іх арганізацыя з удзелам штатнага працаўніка ГП, Янкі Мордаля, атрымала адмоўную ацэнку. (Я.Ц.)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Да юбілею Максіма Багдановіча.
- На Кузьмы і Дзям'яна ў Рыбалах.
- Аб супрацоўніцтве Беласточчыны з Беларуссю.
- Калі „Цаглінкі" пяюць ад душы...
- Радыёаматарства па-беларуску.



## ПАПРАЎКІ

У 46-тым нумары „Нівы" (ад 17 лістапада г.г.) у маім тэксце трапілася прыкрая памылка. „Здаваць на гісторыю — банальна" гэта размова не з Янкам Пракапюком, а з Яцкам Пракапюком. Яцка і шаноўных чытачоў прашу прабачэння.

**Мікола Ваўранюк**

У 47 нумары „Нівы" па карэктарскаму недагляду ў артыкуле „Полюсы выбарчых эмоцый", на стар. 7, прапалі апошняе слова і прозвішча аўтара. Апошні абзац павінен выглядаць так:

Улічваючы ўсё сказанае, думаю, што падчас гэтых выбараў перамог нас не Саюз левых дэмакратаў і яго лідэр В. Цімашэвіч. Гэта мы, беларусы, перамаглі самі сябе. І добра нам так! Можа паразумнеем.

**ВІКТАР СТАХВЮК**

Аўтара і чытачоў сардэчна перапрашаем.

**Рэдакцыя**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА
ЛІТАРАТУРНА
МАСТАЦКАГА
АБ'ЯДНАННЯ
№ 384

## ЯН ЧЫКВІН

### ВЫГІБ ПОЛЫМЯ

Мой скрутны час і час эпохі
Не супадаюць ані трохі.
Размінаюцца, як гмін з сенатам,
Як дулі соваюць сабе розных партыяў плакаты.

З прычыны той — нас двое хворых:
Настальгія, пасцель, малітва у галовы;
Душу перавярнуць — не тое, што прастору
Перакапаць або надзець мундзір галёвы.

Гарыць мая свяча. Ад скразняку-прайдохі,
Што дзьме і хоча здзьмуць яе жывое цельца,
Шчэ болей раз'яраецца агонь і выгіб полымя, здаецца,
Адным сваім святлом змагаецца з пачварным воблікам эпохі.

### ЗА ЦІШЫНЁЮ САМОТЫ

У імгле ці то я, ці хто іншы, бяскрылы, ідзе...

Што сказаць мае той, хто дайшоў да мяжы?
Што з існення майго застаецца толькі след на вадзе
Ці што боль фізічны нішто ў параўнанні з болем душы?

Штось навонкі імкнецца тымчасовымі ліпкімі пыямі,
Выплывае пасмамі смутку, плямамі болю, петлямі крыку
З першымі пеўнямі вырывае са сну і душыць за шыю.

І хтось ва мне ўжо жыве — мацнейшы, чужы і вялікі.

Так стаецца хвароба — крывое адлюстраванне мяне.
У абліччы панурым яе ўжо відаць, што будзе са мною далей.
А чужому таму выйсце я бачу ў высока адкрытым вакне —

Ад жалёты жыцця да харому зямлі — што раней што пазней...

## МІРА ЛУКША

### КРЫК

*Змітраку Яўтуховічу*

Вецер гоніць
Белу хмару
Па сіні паблеклай.
Гнеўны коннік
З нашых мараў
Вырваўся із пекла.

Людзі вочы
Апусцілі,
Быццам грош шукаюць.
Ці падкову
Залатую
Кінуць ім — хай маюць?..

Чорны горад
Чорным ветрам
Дыхае да болю.
Ці крык зглохне
Ў сценах-нетрах?
Вырваўся б на волю!

Вецер гоніць
Белу хмару
Па паблеклай сіні.
Ці дождж чорны
На той горад
Сляпой смерцю рыне?

Вецер гоніць
Белу хмару
Над спаленым полем.
Чорны прысак
Ў маім сэрцы
Так пячэ, так коле.

Чорны горад
Чорным ветрам
Дыхае да болю.
Ці крык зглохне
Ў сценах-нетрах?
Вырвецца на волю!

*ліпень 1991*

* * *

*Дзіму Іжохіну*

усмешка —
стрэл
усмешка — матыль
усмешка — прагані-жаль
усмешка — забудзь
прабач

* * *

*Алесю Арабею*

Адчыніце жаль,
Адчыніце сум,
Вочы крынічныя.
Вочы цёплыя,
Быццам з выраю
Птушкі вандроўныя
Неслі кроплі
Ў асцярожных дзюбах
І апусцілі ў калыску
Што пад хатай
Белавежскай гушкалася.

**********************************************

## ВІКТАР ШВЕД

### ПЕРАСЦЯРОГА

Мілы дружа,
Табе парада:
Бойся дужа
Быка спераду,
Каня ззаду,
Людзей благіх
З бакоў усіх.

x x x

Як быццам вогнішча — жыццё людское.
Яно іскрыцца толькі ў свой пачатак,
Агеньчык поўзае па ім змяёю,
Успыхне раптам полымем багатым.

Яно гарыць сабе спакойна потым,
І прытухае на вачах лагодна,
І тлее вугалёчкамі з лянотай,
І попелам становіцца халодным.

**********************************************

## НАДЗЕЯ АРТЫМОВІЧ

* * *

Нашая размова
зарысавана лёгка ноччу
агрэта аднавокім месяцам

глядзім
як чорны час бялее
над тонкімі пальцамі непрысутных

заіржавелі ноты нашых слоў
апранутых ў элегантныя касцюмы
і толькі стук пад сэрцам
колеру жывога...

********************************************************************************************

## САКРАТ ЯНОВІЧ

### ПАЖАР У ДУЖАГА

Стадола Дужага стаяла за зараслямі, што развяліся ад запушчанага агароду старой Сікелянкі. Паветку з падстрэшшам даўно ўпадабалі сабе недапільнаваныя мужчыны з палятухамі, пакуль усё не спаліў каторысьці курэц з іх.

Як заняўся быў пажар упоранкі, падняла гвалт салдатка Ганэфа, відаць, рада адчапіцца ад пасынка Пекнага Імполя. Разагналася яна, ажно апала ёй спадніца, нарабіўшы пацехі мужыкам. Дурнаваты Макацёр, як гэта дурань, якога ўсюды мусіць быць поўна, сігаў наўпрасты, цераз гразь Мухаўкі, па-буслінаму падымаючы аголеныя ногі. Пакрыкваў (кнігаўкаю): — Гары-ыць, гары-ыць!!! Сперлася і Сікелянка, прыгуменем абыходзячы з іконаю полымя. Хтосьці для важнасці камандаваў па-польску: — Шыбко-о, пся крэў!

Раскалацілі Дужага, што жыў у Жарабцовай вулачцы, але яму не было ўжо чаго гасіць. Выпырхнуў ён з хаты ў адной доўгай кашулі і, бліскаючы пятамі, наскочыў на свайго швагра ў гурме людзей. Яны счапіліся біцца. — Не дарую! — хрыпацеў адзін. — За што?! — адплёўваўся другі. І каціліся па выгане, чорным ад быдлячага памёту. Сікелянка глядзела на клубаваніну, як бы не чуючы рогату і канчаючы шаптаць малітву. З паклонам паставіўшы святы абраз пад тоўстую ліпу ў плоце, падыйшла да зазёванай Ганэфы і схапіла яе за кудлачы. — Сука ты! — вішчала. — Пусці, вядзьмарка! — павісквала тая.

Каля пажарышча пабіліся не толькі яны (адну палятуху мала не ўвалілі ў прысак). Наенчыўшыся, пачалі разыходзіцца дагледзець жывёлу, выганяць пастуху кароў ды авечак на пашу. Нехта пакінуў Дужаму драўлянае вядро з абручамі, якім насіў ён потым зялёную ад жабаў і апалонікаў ваду з Мухаўкі, залiваючы галавешкі. Замурзаны ды паскавыцелы кляў усё і ўсіх, нават нябожчыцу жонку і з'ехаўшых у Польшчу сыноў, а найстрашней курвы.

### ДОЎГАЯ СМЕРЦЬ КРЫНАК

У заімшэлыя Крынкі, куды знікае правінцыяльны шлях, прыязджаюць рэйсавыя аўтобусы. Яшчэ з пасажырамі. З'яўляюцца і аўты, абнюхваючы ўпатканыя завулкі, каб упаўзці ў нечыя вароты (пад брэх сабарна). Часам ламарэндзіць паміж платамі грузавік з брызянтовым гарбом, сунучыся ў шорганні галіноўя запушчаных прысадаў (нешта вывозіць). Прашлэпае забарадзелы абадранец; дзесьці кідае ябукамі, бы каменні на крушню, малады п'яніца.

Тут чамусьці ўсё восень, ці лета а ці зіма.

Не зразумець, дзеля чаго жывуць у Крынках людзі. Даўным-даўно павінна іх не быць; урослыя ў зямлю будынкі і размытыя вуліцы тут будуць укрытыя свяжуткімі бярэзнічкамі, грыбнымі пералескамі. Пушча атуліць непатрэбную ў капіталізм ваколіцу: на колішніх загонах забуяюць мядзведжыя малиннікі, завядуцца дзікі пад дубовымі падрубамі і пачнуць пасціся казулі на ўтравелых прыгуменнях... Пазніца прыход сюды новай цывілізацыі горада і лесу. Вінаваты ў гэтым, вядома, палякі, перабіраючыся ў пакінутае беларусамі феадальнае староннe. Бессэнсоўна яны мяркуюць, што хоць у Крынках, гэтым пасляхалопскім цяні горада, можна выжыць... А ў іх жа магчыма толькі ціха памерці.



## ЛЯШЧЫНСКІ ПЛЯЦЕ ГЛУПСТВЫ

Не мне сцярпець, калі такі інтэлігентны хлопец, як Юрка Ляшчынскі, пачынае, звычайна, плясці глупствы. У карэспандэнцыі Беларускай праграме радыё „Свабода", перадрукаванай у „Ніве" ад 17 лістапада, той жа Ляшчынскі праводзіць наіўную думку, што Беларускі выбарчы камітэт дапусціў вялікую палітычную памылку, не паразумеўшыся з Выбарчым камітэтам праваслаўных. Падсоўвае нават тэзу: або пеяк скокам-бокам выйграць парламенцкія выбары, або ... застацца адкрыта беларускім і прайграць іх, як гэта і здарылася.

Юрка Ляшчынскі як удзельнік Беларускага выбарчага камітэта не мог не ведаць пра тое, што адбыўся цэлы шэраг якраз перамоваў з Выбарчым камітэтам праваслаўных, асабліва з яго лідэрам інж. Яўгенам Чыквіным, які нязменна ставіў два, як бы спецыяльна нерэальныя, варункі; менавіта: у выпадку ўтварэння супольнага камітэта не можа ён мець у сваёй назве анічога яўна беларускага, а на першым жа месцы ў агульным выбарчым спіску павінен апынуцца ніхто іншы, як Яўген Чыквін. Той жа Чыквін настойваў, між іншым, каб Беларускі выбарчы камітэт, **самаліквідуючыся**, згадзіўся арганізаваць — паводле яго канцэпцыі — Выбарчы камітэт нацыянальных меншасцяў Беласточчыны, пад назваю якога трэба было разумець не адных беларусаў, але і бельска-кляшчэлеўскіх... украінцаў (што апошнім часам аб'явіліся сярод былых актывістаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Беларускага аб'яднання студэнтаў). Гэта значыць — мы такім чынам прызналі б задуманую кімсьці ўкраінізацыю Бельшчыны ды Гайнаўшчыны на базе палескіх дыялектаў.

Беларускі выбарчы камітэт на гэта не даў свае згоды, каб — на практыцы — як быццам ампутаваць тэрыторыю беларускай нацыянальнай меншасці ўсяго да гмінаў Нараўка, Гарадок, Міхалова, Шудзялава, Крынкі...

Калі б Бог адняў у нас розум і мы пайшлі на тое, дык вынік парламенцкіх выбараў для нас усё роўна быў бы **дакладна такі самы**: мандат атрымаў бы адзін Яўген Чыквін. Гэты да нядаўна „праваслаўны паляк", а цяпер „праваслаўны беларус"; заўтра, пэўна, „праваслаўны украінец" — у залежнасці ад кан'юнктуры.

Мой дыягназ такі: беларускага пасла ў польскім Сойме не будзе так доўга, як доўга праваслаўнае насельніцтва Беласточчыны не пачуецца **яшчэ** і беларускім у пераважнасці. Не трэба тут нам хітрыць ды праводзіць нейкія немаральныя камбінацыі: мае быць пасол **беларускі** менавіта (праваслаўны, як бачым, ужо ёсць). А тое, што інж. Яўген Чыквін надумаў стацца — і праваслаўным, і беларускім, і ўкраінскім удадатак, дык гэта яго, а не наша, воля. Адзінае, што можам тут-ка зрабіць, не іначай як на яго просьбе, то асвяціць у беларускіх праблемах; магчыма, дапаможа ён у чым, каб прыпыніць хоць трохі паход пальшчызны ды перайначванне нашых людзей у палякаў, дык і ў рыма-католікаў (што ёсць лагічным).

**САКРАТ ЯНОВІЧ**





**Царква ў Корніне.**
*Мал. У. Петрука*

*****************************************************************



## *Святая благаверная Сафія Слуцкая.*

Алелькавічаў Слуцк быў у XVI стагоддзі цэнтрам праваслаўнай культуры. У шасцідзесятых гадах гэтага стагоддзя прабываў там славуты маскоўскі манах Арцём, які змагаўся з рэфармацыйнымі і каталіцкімі рэлігійнымі плынямі. Пасля смерці Арцёма ў Слуцку прабывалі ягоныя вучні (між іншымі, Марко Сарыгозін).

Юры Юр'евіч Алелкавіч — князь слуцкі, бацька святой Сафіі, быў адданы Праваслаўнай царкве. Сам фундаваў шмат манастыроў і цэркваў. Дапамагала яму ў гэтым ягоная жонка Варвара (па маці находзіла з праваслаўнай сям'і Багавітыновічаў). Бацькі святой слуцкай княгіні выхоўвалі сваіх дзяцей у адданасці веры сваіх продкаў. Адкінулі прапанову рымскага папы Рыгора XIII і ягонага нунцыя А. Пассевіна перайсці на каталіцызм. Юры Алелкавіч памёр у 1578 годзе, а ягонае цела 12 красавіка 1579 года было пахавана ў Кіева-Пячэрскай лаўры (там 6 мая 1586 г. быў пахаваны і ягоны сын Юры).

Святая Сафія (1.05.1575 — 9.03.1612) засталася пасля смерці бацькі і брата адзінай уладальніцай Слуцкага і Капыскага княстваў. Шматлікія магнаты хацелі на ёй жаніцца. Сафія, не хочучы вайны між імі (Хадкевічамі і Радзівіламі), 1 красавіка 1600 года выйшла замуж за Яна Радзівіла — кашталяна віленскага (1579 — 1620). Шлюбны кантракт гаварыў, што слуцкая княгіня застаецца ў праваслаўнай веры, а ў яе маёмасцях не будуць будавацца пратэстанцкія касцёлы.

Зараз пасля шлюбу князь Радзівіл выехаў на шведскую, а пазней маскоўскую войны. Святая Сафія ад гэтага часу правяла сваё жыццё амаль у адзіноце. Апекавалася яна цэрквамі і манастырамі, матэрыяльна падтрымоўвала царкоўныя брацтвы, для бедных будавала бальніцы. Яе жыццё было ўзорам для другіх хрысціян. Благавернасць гэтага жыцця выявілася ў яе адданасці праваслаўнай веры, ушанаванні Бога і святых, у паводзінах і ўчынках паводле законаў божых. Вернасць канонам Усходняй Царквы была вельмі важная ў часы, калі большасць праваслаўных магнатаў прымала унію, каталіцызм ці пратэстантызм.

Святая благаверная Сафія памерла ў Амыленцы 9 сакавіка 1612 года. Яе нятленныя мошчы былі



перанесены ў Свята-Троіцкую замкавую царкву ў Слуцку. Праваслаўная царква, каналізуючы апошнюю слуцкую княгіню, падкрэсліла благавернасць не толькі яе, але і цэлага роду Алелкавічаў. Святая Сафія стала галоўным героем шматлікіх мастацкіх твораў: Ю.І. Крашэўскага (Ostatnia z książąt słuckich, 1841 г.) і У. Сыракомлі (Możnowładcy i sierotka, Zofia księżniczka Słucka, 1859 г.).

Памяць св. Сафіі Слуцкай Царква ўшаноўвае 19 сакавіка.

**АНТОСЬ МІРАНОВІЧ**

## ПРА КНІЖКУ АБ ЭМІГРАЦЫІ

Пра кніжку Барыса Сачанкі „Беларуская эміграцыя"* пішу толькі з пачуцця грамадскага абавязку, бо ніякая сур'ёзная рэцэнзія не атрымоўваецца. Недарэчнасць пачынаецца ўжо з самага загалоўка. Пра эміграцыю ў кніжцы ўсяго некалькі старонак, астатняе — пра беларускую культуру, а дакладней пра літаратуру на эміграцыі. Усё гэта аздобленае паклёнамі на „фашысцкіх наймітаў", якія без дазволу бацькі Сталіна „надта ж хутка" стварылі беларускія арганізацыі, школы, часопісы і тэатр. Паясняць Сачанкавы ўяўленні пра акупацыю і вайну няма сэнсу. Хто дасюль не зразумеў, што Сталін быў злыднем зусім не лепшым за Гітлера, той гэты час не зразумее ніколі.

Сапраўднай літаратурнай крытыкі таксама ў кніжцы няма, а ўсю творчасць аўтар зводзіць да тугі няшчасных эмігрантаў па бацькаўшчыне (І добра ім так!). Беларускай мовай для Б. Сачанкі з'яўляецца толькі мова пасля сталінскай рэформы і таму не дзіва, што паводле яго Янка Станкевіч „асабліва не вылучаўся добрым густам і ведамі беларускай літаратурнай мовы".

У кніжцы два заканчэнні. Адно — „У працяг размовы", напісанае ў 1989 годзе, у якім аўтар у адказ на водгук Янкі Запрудніка на сваю пісаніну пытаецца: „Няўжо і сёння яшчэ ёсць прастакі, хто верыць такім, клюе на іх прыманку?.." У другім заканчэнні, „Пасляслоўі" з 1991 года, чытаем, што ў Сусветным кангрэсе беларусістаў прымаў удзел Янка Запруднік. І я там быў і бачыў, з якім энтузіязмам на кангрэсе ў Менску віталі таго ж Запрудніка, хаця ён сваіх поглядаў не змяніў.

Як заўважыў раней аўтар: „Увесь час беларускія эміграцкія выданні імкнуліся падтрымліваць новыя рухі, моладзь. Асабліва тыя, што ў Савецкай Беларусі. Рабілася ды і робіцца пэўная стаўка — маўляў, усё ранейшае, старэйшае „абальшавічана", а вось новае, маладое вабіць „вольны свет", разумее ўсіх, хто там". Сёння відаць ужо ясна, што гэтая стаўка апраўдалася.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

---

* *Барыс Сачанка, Беларуская эміграцыя. Выданне другое, дапоўненае і папраўленае, Мінск 1991.*

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**23 сакавіка 1988 г.**

19-га ў Альштыне, на сустрэчы са студэнтамі-беларусамі ў пакоі-святліцы аднаго з інтэрнатаў Картова. Арг. Уладз. Пац і Раман Семянюк (не дае рады гаварыць па-беларуску). Пац, здаецца, хутка будзе лідэрам, адным з тых рэдкіх, што нарадзіліся на Сакольшчыне (Кнышэвічы).

Гаварылі пра ўсё, а найбольш пра „Białoruś, Białoruś" (ад 20-ай да 24-ай). Былі студэнты з варшаўскай беларусіяны, трохі ўкраінцаў і адна літоўка. Гэта быў той лішні майму здароўю выезд, пасля якога яшчэ і сёння адчуваю я сябе пуста ды ўтомна.

Студэнты могуць, урэшце, вылучыць са свайго асяроддзя цалкам добра сарыентаваных у агульнай гісторыі Беларусі ды яе культуры, замест цягаць з сабою ўсюды мяне.

**25 сакавіка 1988 г.**

Семдзесят гадоў ад абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Студэнты недзе святкуюць цішком, вялікі гэта ўжо зрух, калі параўноўваць з тым, што было яшчэ некалькі гадоў назад (не кажучы пра маю маладосць, у якую аніхто і не чуў пра такую гадавіну).

Добра сталася, што сёньняшняя „Ніва" публікуе на гэты конт артыкул Склубоўскага (я яго апрацоўваў да друку, але ўсё думаю, ці напісаў яго Склубоўскі толькі па ўласнай ініцыятыве...).

Апошні з трох маіх выкладаў на Беларускім Народным Універсітэце (пра Ягелонаў). Слабы я ў гісторыі, мала ведаю, больш думаю катэгорыямі дамінуючых тэндэнцыяў; пісьменнік з мяне, а не даследнік! Адчуваю сябе ільвом ва ўмовах аўтарскай сустрэчы або дыспутکі са мною, і — амаль невукам, калі трэба выступіць у ролі метадычнага выкладчыка (на маё шчасце, на гэтым Універсітэце гаварыў я да людзей, зусім не сарыентаваных у гісторыі Беларусі). Дрэнна адчуваю сябе пасля г. выкладаў (меўся праводзіць іх М. Гайдук, але, як гэта ён, у апошні момант падвёў). Далей павядуць — Міранові і Туронак (ад 1902 г.). Я болей не пішуся, з мяне даволі, гэта не мой жанр. І не на мае нервы! **Я добры, але на пачатак.**

**27 сакавіка 1988 г.**

Учора, ад 18-ай да паўночы ў адной з беластоцкіх кватэр — на студэнцкім вечары, прысвечаным 25 Сакавіка. Так сказаць, на ўсебеларускім: былі дзеячы руху з іншых гарадоў, нават тыя хлопцы з Альштына, і дзве дзяўчыны з Менска як госці (ашаломленыя размахам, шматлюднасцю імпрэзы, да паўсотні чалавек). Мая ціхая нездаволенасць тым, што зноў і зноў давялося мне быць „найгалоўным": выступіць з дакладам (экспромтам — без папярэджання мяне, бо, здаецца, падвёў іх Я. Жамойцін...), весці паслейшую гутарку, etc. Жа ж жа былі і Туронак, і Г. Мірановіч, і А. Латышонак, і Тарасэвіч (які хоць быў актыўным у будаванні ўсяго настрою). Такое, як бы маўклівае, высоўванне мяне дапераду не можа не гнявіць! Кажу хлопцам: даволі! Трэба, каб з вашага маладога асяроддзя пачалі вылучацца ідэолагі ды аратары; нашто вам гэты культ Яновіча; гэта і рызыкоўна — усенька публічнае на адным, і г.д. Думайце перспектыўна!

Трагічна было слухаць менскіх дзяўчатаў: плюс-мінус 300 інтэлігентных дамоў у Беларусі карыстаецца роднай моваю; барацьба ўжо не за аднаўленне беларускасці Беларусі, але за цярпімасць да беларускага ў Беларусі! (Успомніўся нядаўні верш Панчанкі, у якім развіваецца ён з роднай моваю).

Сельвясюк кіруе намаганнямі дзеля ўтварэння, усё-такі, таго БАСу (Беларускае Аб'яднанне Студэнтаў). Па-мойму, зарана для гэткіх захадаў... Кажу ім: пачакайце новай юрыдычнай сітуацыі, у якой не будзе ўжо такі мус на ўсякія працэдуры, будзе ліквідаваны (?) бюракратычны лабірынт для загубы ўсяго, што — звычайна — не даспадобы вярхам.

„Archiúny sšytak" — фурор! Зачытваюцца ім. Узбагачае і змяняе свядомасць.

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— Картова — студэнцкі квартал Альштына;*

*— Уладз. Пац — Уладзімір Пац, цяперашні старшыня Беларускага Аб'яднання Студэнтаў у Польшчы;*

*— Склубоўскага — Вінцук Склубоўскі, даваенны дзеяч Заходняй Беларусі, які пераехаў жыць у Беласток; працаваў валводскім суддзёю, публікаваўся ў „Ніве", а нават, праз нейкі час, быў старшынёю ГП БГКТ;*

*— М. Гайдук — Мікалай Гайдук, былы дырэктар Беларускага ліцэя ў Бельску і былы намеснік галоўнага рэдактара „Нівы", публіцыст і літаратар;*

*— Ян Жамойцін — вязень сталінскіх турмаў, дзеяч Варшаўскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства;*

*— 25 Сакавіка — дзень дзяржаўнага свята Беларусі, у які ў 1918 годзе апавешчана яе незалежнасць;*

*— Панчанкі — Пімен Панчанка, выдатны беларускі паэт, адзін з тых, каго называюць сумленнем нацыі;*

*— Сельвясюк — Валянцін Сельвясюк, цяпер бізнесмен і дзеяч Беларускага дэмакратычнага аб'яднання; вучыўся ў амерыканскіх універсітэтах.*

*************************************************************************************

# ПАЧАТКОВАЯ ШКОЛА Ў РЫБАЛАХ ЗАСТАНЕЦЦА БЕЗ ІМЯ

Бацькоўскі сход у Пачатковай школе ў Рыбалах праводзіўся раней, чымсьці я таго спадзяваўся. Але інфармацыя пра яго дайшла да мяне своечасова, і 15 лістапада, гадзіны паўтары да пачатку сходу, выходзіў я ўжо з аўтобуса Бельск - Беласток на прыпынку Рыбалы. Што гэта паслясвяточны дзень (пасля прыхадскога свята Кузьмы і Дзям'яна), было відаць па вялікай колькасці мужчын перад крамай, дзе кожны з іх трымаў абавязковую бутэльку піва ў руцэ. Пераадолеўшы спакусу стаць з імі ўпоравень, пайшоў я да бацюшкі Рыгора Сасны, ад якога заўсёды варта пачынаць візіт у Рыбалах. Айцец Рыгор, ведаючы ўжо прадмет майго зацікаўлення, горача раіў сустрэцца з Лявонам Федаруком, рыбалаўскім гаспадаром з вялікай цікавасцю да гісторыі. У мяне быў яшчэ час і я з прыемнасцю пакарыстаўся парадай бацюшкі.

Лявон Федарук хоча ўстанавіць прозвішчы ўсіх загінуўшых у апошнюю вайну жыхароў Рыбалаў. А было іх нямала — ад 1939 да 1945 — звыш сарака. „Думаў я раней, калі збяру ўжо падставовыя дадзеныя пра кожнага чалавека, прыб'ем на школе мемарыяльную дошку, каб памяць пра іх не загінула разам з аджыўшымі ўжо свой век старыкамі. Але цяпер не ведаю, ці будзе можна, усё мяняецца, школу ж хочуць назваць, дык ці за новымі героямі будзе месца на звычайную памяць пра нашых землякоў?" — дзяліўся сваімі сумненнямі Л. Федарук.

Ці школе прысвояць імя? Перад сходам вітаюся са знаёмымі з ранейшага наведання Рыбалаў і Паўлаў. Дырэктарка Яўгенія Грыб запрашае ўсіх у адну залу і знаёміць з парадкам сходу. Якраз адной з важнейшых справаў і ёсць прысваенне імя школе (поруч з навучаннем англійскай мовы, гарачай гарбатай для дзяцей, рамонтам даху ў філіяльным пункце ў Паўлах), балазе, трэба ўжо нешта вырашыць і даць канкрэтны адказ. Ужо адзін такі сход не даў выніку, што скажуць людзі цяпер, дарэчы, сабралася іх тут нямала. Мяне таксама, як госця з Беластока, папрасілі выказаць сваю думку. Я толькі журналіст і прыехаў у Рыбалы пачуць рашэнне бацькоў у справе імя школы ды напісаць пра яго, а не праводзіць такую ці іншую агітацыю — пачаў я больш-менш такімі словамі. Але ўжо два тыдні збіраю інфармацыі як пра разбіты каля Паўлаў партызанскі атрад, так і пра прапанову ўшанаваць яго імя, таму лічу, што магу падзяліцца сухімі фактамі. Расказаў я людзям, што гэта такое Канфедэрацыя народу і Ударныя кадравыя батальёны, адкуль гэтыя атрады ўзяліся ў нас, куды ішлі і з якою мэтай (пісаў я аб гэтым у 47 нумары „Нівы"). Сказаў я таксама пра маю размову з намеснікам старшыні Беластоцкага аддзела таварыства „ПАКС" Янам Дзюбам, які патранат гэтай арганізацыі над школай разумее больш як духоўную дапамогу ў выхаванні моладзі, чымсьці ўспамажэнне яе грашамі.

Пасыпаліся галасы. Хтосьці жартам запрапанаваў назваць школу імёнамі св.св. Кузьмы і Дзям'яна, няхай лепш духоўны патранат возьме мясцовая парафія. Адзін яшчэ малады мужчына з кніжкай у руках (здалёк выглядала як успаміны Паўла Ясяніцы) сказаў, што на гэтай зямлі лілася кроў яшчэ і ў 1945-46 гадах. Шануючы памяць загінуўшых тады, лепш не даваць імя, якое можа выклікаць супярэчнасці.



*Будынак пачатковай школы ў Рыбалах.*

Ніхто не выказаўся за прысваенне рыбалаўскай школе імя Ударных кадравых батальёнаў. На пытанне дырэктаркі, ці будуць галасаваць, людзі адказалі, што ўсё ясна і без галасавання, няхай застаецца так, як і дагэтуль. Столькі гадоў была проста Пачатковая школа ў Рыбалах, можа і надалей існаваць без імя. Затое без англійскай мовы заставацца не павінна. І бацькі, канчаткова вырашыўшы справу імя школы, пачалі абмяркоўваць варункі навучання гэтаму прадмету.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# ШТО І ЧАМУ?

**Дзевятнаццатага і дваццатага кастрычніка** на Беласточчыне пабываў старшыня Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" Яўген Лецка. Мэтай яго прыезду была падрыхтоўка рэалізацыі пагаднення паміж ЗБС „Бацькаўшчына" і Беларускім дэмакратычным аб'яднаннем ад другога кастрычніка г.г.

На працягу двух дзён госць Аб'яднання правёў некалькі сустрэчаў з прадстаўнікамі ўстаноў да прадпрыемстваў, зацікаўленых у супрацоўніцтве з „Бацькаўшчынай". Найбольш плённымі былі перамовы з а. Рыгорам Місеюком з прыходу св. Мікалая ў Беластоку, Сяргеем Мартынюком, дырэктарам суполкі „Пронар" у Нарве, і Кастусём Майсенем з Беларускага музея ў Гайнаўцы.

**Дзевятага лістапада** Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне наведалі кіраўнічыя супрацоўнікі інстытута Гердэра з Марбурга (правінцыя Гэсэн у ФРГ). Адзін з іх, Генрых Мроўка, някепска валодаючы беларускай моваю, займаецца вывучэннем праблемаў нашай меншасці. У хуткім часе ў інстытуце Гердэра будзе арганізавацца беларусазнаўчы асяродак.

**Старшыня Галоўнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Сакрат Яновіч** быў уведзены ў праектаваную польска-беларускую камісію для падрыхтоўкі трактата паміж дзяржавамі. Галоўная рада БДА рыхтуецца да другога ў сваёй гісторыі кангрэсу. Яго правядзенне плануецца на палову студзеня наступнага года.

**Ю. КАЛІНА**

ЯЛАНТА БРАХ-ЧАІНА

# ТАРАСЭВІЧ

Пейзажы з наваколля Гарадка і Валілаў. Ускраіна Кнышынскай пушчы. Разлеглыя. Прасцягі. Пазначаныя рытмамі, што амаль дакладна паўтараюцца. Даволі плоскія. Разлегласць тут не вызначае адкрыты прастор і ясную перспектыву. Рытмы. Трава, трава, трава, збожжа, збожжа, збожжа, лес, лес, лес. Лес перад усім. Як змяніць іх у сучасны жывапіс? Час пейзажыстаў мінуўся. Тадэвуш Дамінік, у майстэрні якога Тарасэвіч рабіў дыплом (1984), знайшоў вырашэнне праблемы пейзажу ў простых кампазіцыях каляровых плямаў са змякчанай геаметрыяй.

Тарасэвіч прадстаўляе свет сінтэтычна. Абстрактныя сады, букеты кветак, абстрактныя каменні і прасцягі палёў у Дамініка — гэта школьны мастацкі досвед Тарасэвіча, які стаіць за ягонымі карцінамі, але па-за яго ён выйшаў яшчэ ў час вучобы ў Акадэміі. Набліжае іх — родам з традыцыі каларыстаў — прынцып стварэння карцін колерамі і пабудова рытму паўторам простых формаў. На першы пагляд здаецца, што і тэма ў іх падобная: прырода. Аднак жа па супрацьлеглых баках ставяць іх і творчая манера і, перад усім, адносіны да свету, ды звязаны з гэтым клімат крыніц: лірычны ў Дамініка, гвалтоўны ў Тарасэвіча. Але праблема не зводзіцца адно да эмацыянальнага адцення. Справа тут у іншых светах і іншых чалавечых абставінах. Суадносіны між мастаком і прадстаўленым аб'ектам тут радыкальна розныя. У Дамініка адносіны гэтыя цёплыя. У Тарасэвіча — драматычныя, бо аб'ектам ягонай зацікаўленасці не з'яўляюцца ні сад, ні поле. Натуршчыцай Тарасэвіча — Беларусь. Нічога не дасць цеплыня і прастата Дамініка ў сутыкненні са справамі зблытанымі, балеснымі, часам жахлівымі. Тарасэвіч засвоіў сабе і скарыстаў досвед з Акадэміі, але вымушаны быў шукаць уласных вырашэнняў. Суровых. Вострых.

*Шмат людзей не надае аніякага значэння месцу свайго нараджэння — абы-дзе быць, абы-дзе жыць. Для мяне наадварот, гэта справа вельмі важная.1*

Сувязь карцін Тарасэвіча з навакольнымі краявідамі Гарадка і Валілаў, адкуль мастак паходзіць і дзе пражывае, відавочная ў паўторах усіх гэтых матываў пнёў, сцяблін травы, разорын. Асабліва выразна бачым гэтую суадносенасць у карцінах, што набліжаюцца да фігуральнага жывапісу. Якраз гэтыя карціны — з выявамі ссечаных соснаў і пнёў на высечцы — даюць інтэрпрэтацыйны кантэкст абстрактным кампазіцыям, навязваюць суадносенасць з мясцовым пейзажам.

*З акна майго дому відаць вёска Случанка, у якой жыў мой дзед, прадзед і прапрадзед.2*

Ды ўсё ж такі, прызнаючы прадметную (матэрыяльную) вязь карцін з мясцовай прыродай, мы прытым уражаныя іхнім непадабенствам, разыходжаннем каларыту, супрацьстаўнасцю настрою, кантрастам. У прыроды тамашняга староння колеры далікатныя. Зелень сасновых лясоў прыцярушана срэбрам. Смуга над лугамі таксама сцішвае і срэбрыць фарбы. Ці можа быць нешта вострае ў бульбянішчы альбо збожжам абсеяным полі, альбо ў павольнай плыні нізіннай рэчкі? Ці святло ў паўночна-ўсходняй Еўропе дазваляе колеру стацца яскравым? Адно зімою цёмныя камлі соснаў вострa вылучаюцца на фоне снежнай белі. Лясістыя раўніны, час-часам невялічкія ўзгоркі, лагодныя абрысы, далікатныя колеры. Ускраіна Кнышынскай пушчы, дзе ляжаць Валілы, — гэта месца надзвычай прыгожае, але той далікатнай красою, якой дарма нам шукаць на карцінах Тарасэвіча.

*Разглядаючы мае карціны, шмат людзей хоча расшыфраваць, што было іхнім прататыпам. Калі ўрэшце ўгледзяць, што гэта трава, ідуць да наступнай карціны, думаючы, што ўжо зразумелі ўсё.1*

Дык што ён малюе? З чаго бяруцца гэтыя раз'ятраныя карціны? Абрысы выразныя, колеры вострыя, часта яскравыя. Драматычная ўражальнасць. Несуладдзе між характарам карцін і краю, да якога адклікаюцца, прымушае нас паставіць пытанне, што на самай справе малюе Тарасэвіч, калі нам здаецца, што ён малюе траву або лес?

*Звыш усяго, будучы беларусам, жывучы тут, на Беласточчыне...3*

Беларусь шмат каго падманвае пейзажам, што сваім супакоем укрывае драму народа, з тоеснасцю якога не лічацца ні расейцы, ні палякі. Чарговыя трактаты і дагаворы аб межах раздзіралі жывую краіну. Па той бок беларусаў русіфікавалі, руйнавалі эканамічна, забівалі. Па гэты бок паланізавалі, таксама знішчвалі эканамічна і пазбаўлялі рэлігійнай спадчыны, прымушаючы пакідаць праваслаўе дзеля марксізму альбо каталіцызму. Нічога не змянілася; каб толькі не стала горай. Беларусу, які не хоча дасведчыць тае асаблівае пагарды, якой польскі грамадскі нораў абдзяляе нацыянальныя меншасці, трэба „толькі" перастаць быць беларусам і пазамятаць сляды свайго паходжання. Пад прымусам шмат хто так робіць. Але не тыя даволі шматлікія, што жывуць на вёсцы, чыё становішча настолькі дрэннае, што нічога ўжо не чакаюць ад грамадства і, такім чынам, могуць быць беларусамі, і не тыя нешматлікія, талент якіх ставіць іх так высока, што яны могуць быць сабою, бо не яны патрабуюць штосьці ад гэтае



*Лёнік Тарасэвіч.Венецыя 1989.* **Фота Габрыелі Кардаца.**

****************************************************************************************

# ГАРОДЗЕНСКІ ГУРТОК БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

— 2 —

У 46 нумары „Нівы" я пазнаёміў шаноўных чытачоў з успамінамі пра Гародзенскі гурток беларускай моладзі 1909-1914 гадоў бліжэй невядомага нам дагэтуль аўтара, які схаваўся пад псеўданімам Ян з-пад Ласосны, на аснове ягонай публікацыі, змешчанай у I (7) нумары беларускага эміграцыйнага грамадска-палітычнага і літаратурнага часопіса „Крывіч" (1923-1927) ад студзеня-сакавіка 1924 г., выдаванага ў сталіцы тадышняй Літвы Коўні пад рэдакцыяй Вацлава Ластоўскага і Клаўдзія Дуж-Душэўскага.

Як кожныя ўспаміны, так і Яна з-пад Ласосны шмат у чым суб'ектыўныя, часам недакладныя, на што я звяртаў падчас публікацыі ўвагу. Таму дзеля іх большай аб'ектывізацыі я падрыхтаваў у друк адначасна, як быццам праця, успаміны пра гэты гурток нашай славутай зямлячкі Зоські Верас (Людвікі Сівіцкай, па мужу Войцік). Учора (9.XI.) я з сумам даведаўся, што памерла Яна ў кастрычніку г.г. на 100 годзе жыцця, не дажыўшы да юбілею сотай гадавіны з дня нараджэння Максіма Багдановіча, які святкуем 9 снежня г.г., ні сваіх сотых угодкаў з дня нараджэння, якія будзем адзначаць 30 верасня наступнага года.

Першая частка гэтых успамінаў была надрукавана ў 3 (4) нумары віленскага грамадска-навуковага і літаратурнага месячніка таварыства беларускага студэнцтва „Студэнская думка" ад сакавіка-красавіка 1925 г., рэдактарам-выдаўцом якой быў Адольф Зянюк (1894-1938), што родам з нашай Сухаволі (каля 20 км на паўднёвы захад ад Дубровы-Беласточкай і каля 60 км на поўнач ад Беластока), пад крыптанімам Л. С-Ш. Другая ж — у 4 (5) нумары гэтага ж часопіса, выдаванага Беларускім студэнцкім саюзам у Вільні, пад тым жа крыптанімам. Н-р 3 (4) „Студэнскай думкі" з першай часткай гэтых успамінаў быў канфіскаваны польскімі ўладамі. Хай гэтыя ўспаміны будуць пасведчаннем таго, што адраджэнскі і змагарны дух Зоські Верас не адышоў ад нас разам з Ёй, а і надалей лунае сярод нашага насельніцтва на Беласточчыне ці больш блізкай і роднай Ёй Сакольшчыне і Дуброўшчыне.

Сёння друкуем першую іх частку.

Хай будзе Ёй пухам Віленская зямля!

**Юры Трачук**

### УСПАМІНЫ АБ ГОРАДЗЕНСКІМ ГУРТКУ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Вось яшчэ адныя ўгодкі, аб каторых, аднак, мала хто, або ляпей, амаль ніхто не ведае.

19-га лютага 1910 года была наладжана ў Горадні першая беларуская вечарына-спектакль. Захаваўшаяся, ніжэй прыложаная праграма паказвае паважныя мэты, якімі кіраваліся арганізатары вечарыны.

I. 1) Прамова — А. Бычкоўскі (Адам Бычкоўскі — 1889-1937, родам з фальварку Талочкі былога Сакольскага павету — дваюрадны брат рэдактара віленскага каталіцкага „Беларуса" (1913-1915), пазнейшы суддзя і адвакат, адзін з заснавальнікаў Цэнтральнага таварыства беларусаў у Варшаве, — Ю.Т.). 2) „Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне" рэферат — П. Алексюк. 3) „А хто нам ідзе?" муз. Рагоўскага — Ю. Косацка і З. Абрамовіч. 4) „Пажалей мужыка" Я. Купалы — А. Клюкоўскі. 5) Музыка. II. „Па рэвізіі", камедыя у I дзеі Крапіўніцкага. III. 1) „Дудка" верш Мацея Бурачка — Э. Кунда. 2) „Гора" муз. н.н. — Ю. Косацка. 3) „Ямшчык" верш Я. Лучыны — П. Алексюк і К. Бужыньскі. 4) „Храк" маналог — А. Ляўковіч.

Вечарынка была наладжана ў прыватным памешканні (у доме Салянкаў на Паліцыйнай вуліцы), дзеля чаго і сцэна і саля былі страшэнна цесныя. Не гледзячы на гэта артысты гулялі добра, а гасцей сабралася гэтульні, колькі здолела памясціцца; былі паміж імі і беларусы ўжо свядомыя і прыхільнікі; паміж апошнімі нельга не ўспомніць цяперашняга (вядома, тадышняга, — Ю. Т.) пасля Сыльвэстра Ваявудзкага, у той час вучня горадзенскай гімназіі. На жаданне публікі на другі дзень спектакль цалкам быў паўтораны.

— — — — — — — —

Артыстамі і загадчыкамі спектаклю былі выключна сябры незадоўга перад тым, увосені 1909 г. зарганізаваўшагася: Горадзенскага гуртка беларускай моладзі. Г. Г. Б. М., як называў сябе гурток дзеля канспірацыі, бо зложаны з адных гімназістаў і гімназістак быў — нелегальным.

Закладчыкамі і кіраўнікамі гуртка ў першым пачатку былі кс. Д. Грынкевіч (хіба Ф. Грынкевіч? — Ю.Т.) і вучань 7-ай кл. гімназіі Адам Бычкоўскі (першастрэчны брат тагачаснага рэдактара „Беларуса" Антона Бычкоўскага).

На арганізацыйным паседжанні быў выбраны ўрад гуртка, каторы складаўся з старшыні А. Бычкоўскага, віцэ-старшыні П. Алексюка, сакратара З. Абрамовіча і бібліятэкаркі Л. Сівіцкай.

Працу сваю гурток пачаў перыядычнымі (раз у тыдзень) „лекцыямі", на каторых чыталіся і разбіраліся творы беларускіх пісьменнікаў, праходзілася гісторыя і геаграфія Беларусі.

У хуткім часе бібліятэка гуртка пачала павялічвацца й апроч „Нашай нівы", „Смыка", „Дудкі" ды „Жалейкі", якія былі ахвяраваны гуртку пры яго „нарадзінах", мела ўсе кніжкі, якія толькі можна было дастаць у Вільні і ў Петраградзе. Кніжкі і календары, а таксама „Наша ніва" выпісваліся „на камісію" і расходзіліся не



*Выстаўка ў галерэі Фоксаль у Варшаве.* **Фота Ежы Бароўскага.**

краіны, а краіна ад іх. Важнае тут, прыкладам, каб беларуса, які „зрабіў" сабе прозвішча ў замежжы, можна было лічыць польскім мастаком, тады варта заплюшчыць вочы на ягоную беларускую спадчыну. Ён наш.

Тарасэвіч паказвае карціны ў музеях і галерэях, якія лічацца ў свеце. Галерэя Нордэнгаке ў Мальмё (1986), галерэі Эдуарда Торпа (1987) і Дамана Брандта (1987) у Нью-Йорку, Галерэя дэль Каваліна (1986) у Венецыі, Рыверсайд Студыя (1986) у Лондане, Бойбрына (1986) і Нордэнгаке (1986 і 1989) у Стакгольме, Галерэя Фанемана (1990) у Берліне.

Прымае ўдзел таксама ў калектыўных выстаўках, дзе выступае як прадстаўнік польскага мастацтва: Польскі жывапіс, Галерэя Эшлі (1986) у Энсаме ў Англіі; Па зямлі, Галерэя Айкан (1986) у Бірмінгеме; Пушча, Галерэя Арнальфіні (1986) у Брысталі; Мастацтва з Польшчы, Галерэя Нувэль Імаж (1986) у Гаазе; польскія выстаўкі пад час алімпійскіх гульняў у Сеуле (1988) і ў Венецыянскім б'енале (1988); Польскія рэчаіснасці, Глазга (1988); Дыялог, Дзюсельдорф (1989); Польшча-Час-Мастацтва, Санкт-Аўгусцін (1990); Накірунак Польшча, Берлін (1990).

*Апошнім часам (...) усё круціцца між дзвюма мясцінамі. Між Амерыкай і Заходняй Нямеччынай. Як бы мы да гэтага ні ставіліся, якраз там выспявае сучасная думка аб мастацтве. (...) Бо я гэтыя карціны тут у Валілах... яны тут на самай справе з'яўляюцца нечым накшталт саенс-фікшэн. (...) Справа ў тым, каб быць і фармаваць тую думку там, дзе папросту маецца на ўвазе мастацтва.3*



*Выстаўка ў Модэрна Мусет у Стакгольме.* **Фота Торда Люнда.**

Штодзённасць — гэта выстаўкі і польская рэпрэзентацыя. Але ў міжчасе варта мастаку паказаць належнае яму месца.

*Пра сябе я ўжо наслухаўся шмат, прыкладам, што я гомасексуаліст, жыд, беларус, а беларусы, вядома, гэта партыя і г.д.2*

Вастрыня, драматызм ягоных карцін, супастаўленых з лагодным краявідам Валілаў, прымушае за гэтымі павялічанымі выразкамі прыроды спасцерагаць Беларусь. Яскравыя і цёмныя фарбы, яскравая і цёмная праблема, драматызм кампазіцыі і беларускага лёсу.

*Чалавек вылеплены з тае самае гліны, што і ягоныя пабрацімы, думае, адчувае і глядзіць на свет так як яны.1*

Але вернемся да пытання, што малюе Тарасэвіч, калі малюе поле альбо лес, каб пашукаць далейшых — іншых, чымсьці дагэтуляшнія — адказаў, і калі не вычарпаць іх, то прынамсі пашырыць кола інтэрпрэтацыі. Гэта звязана з яшчэ адным пытаннем. Чаму і якім чынам мастацтва Тарасэвіча хіліцца да абстрактнасці? Чаму яна служыць? У дачыненні да ўсяго абстрактнага жывапісу такое пытанне было б недарэчным, а самыя цікавыя адказы можна было б звесці да тэарэтычных разважанняў Малевіча. Але карціны Тарасэвіча гэтае пытанне вымушаюць, бо дзеецца на іх штосьці нязвыклае, на сутыкненні рэалістычнага выяўлення з абстрактным. Сутычка, пранікненне, — гэта дынамізуе карціны і чыніць іх вельмі хвалюючымі. Гэта іхняя паражальная прыкмета і асаблівае ўмельства мастака. Карціны вагаюцца між натуральнай арганічнай датыкальнасцю вонкавага свету і чыстай ідэяй; у карцінах мяшаюцца два абшары значэнняў: тых, якія можна ўгледзець, і тых, якія трэба зразумець. У абодвух гэтых пластах мастак пазбягае адназначнасці, не даючы карцінам назваў.

*У рэшце рэшт, маецца на ўвазе не столькі сама карціна, колькі думка, якую тая карціна нясе. Адно толькі, што імкнешся пераказаць як жывапіснымі сродкамі і не хочаш падпірацца альбо заступаць жывапіс нечым іншым — літаратурай, сімваламі з кіно, паэзіі, гісторыі ці нейкімі вонкавымі аналогіямі, прыкладам, дзеля такіх людзей, якія пачынаюць „бачыць" карціну тады, калі прачытаюць ейную назву.1*

*(Заканчэнне ў 50 нумары)*

---

1. Leon Tarasewicz (Rozmowy z artystą), Przegląd Powszechny, nr 7/8, 1986.

2. Leon Tarasewicz, „Nie wiem, co to natchnienie", Gazeta Współczesna, nr 268, 18.11.1988 (Wywiad. Rozmawiała Olga Pacewicz).

3. Leon Tarasewicz, „Jestem zaraożny Wschodem", Plus, nr 13, 8.12.1990 (Wywiad. Rozmawiał Andrzej Kisielewski).

**************************************************************************************

толькі па Горадні, але і па вёсках, бо кожны сябра гуртка абавязаны быў прадаваць кніжкі ў як найбольшым ліку. Грошы прыдбаныя такім спосабам ішлі йзноў на патрэбы бібліятэкі і канцылярыі гуртка.

Першым, так сказаць, публічным выступленнем гуртка была вышэй успомненая вечарына. Але ж гэтым агранічыцца нельга было.

Г. Г. Б. М. маніўся пашырыць сваю працу на вёску і дзеля гэтага падчас тых жа запускоў цэлы склад артыстаў паехаў на вёску, дзе йзноў ставілі „Па рэвізіі" (п'есу вядомага ўкраінскага драматурга, аднаго з заснавальнікаў украінскага прафесіянальнага тэатра, Марка Лукіча Крапіўніцкага — 1840-1910, — Ю.Т.), дэклямацыі і быў прачытаны асведамляючы рэферат. Гэтая першая вечарына для „вёскі" была наладжана ў Сакольшчыне, у маёнтку Крыштапарово, каля мястэчка Новы Двор.

Велізарная саля, паміма дрэннай пагоды, была поўная людзей з вёсак Міленкоўцы, Пагаране і Бернікі.

Пасля запускоў гурток ізноў вярнуўся да нармальнага жыцця, г. зн. да лекцыяў і паседжанняў, каторыя ў хуткім часе з наступаючай вясной замяніліся „спацырамі" за места, найчасцей над Нёман, у Ласосну, дзе пад шум вады і спевы птушак пачаў прабаваць свае сілы — гуртковы хор.

Карыстаўся хор І-м „Спеўнікам" А. Грыневіча, але найчасцей пяялі песні прывезеныя з сваіх родных вёсак і такім чынам вырабіўся зусім арыгінальны, свой уласны рэпертуар. Загадчыкам хору быў сябра Янка Ляўковіч, называны ў гуртку „Капэльдудкай". Канец школьнага году перарваў працу гуртка, сябры каторага раз'ехаліся па вёсках і хвальварках забіраючы з сабой беларускія кніжкі, а, што яшчэ важнейшае, нацыянальную свядомасць.

У пачатку новага школьнага году: 1910-11 лік сяброў гуртка значна павялічыўся.

Прыбыло шмат хлопцаў з малодшых класаў дзеля чаго прышлося падзяліць гурток на тры секцыі: старшую, сярэднюю і малодшую. Старшая і сярэдняя займаліся літаратурай, гісторыяй і геаграфіяй Беларусі і кіравалі малодшай секцыяй, сябры каторай, вучні І і ІІ кл. гімназіі, чыталі па-беларуску, пісалі дыктоўкі, вучылі вершы і г.д.; раз у месяц рабіліся для іх вечарынкі з дэклямацыямі, спевамі і гульнямі.

Амаль не з самай восені старшыя сябры Г. Г. Б. М. пачалі падгатаўляцца да вечарыны. Пасля Каляд гэтая падгатаваўчая праца яшчэ больш ажывілася, бо трэба было думаць аб дэкарацыях, праграмах і г.д. За складковыя грошы пашылі куртыну з намаляваным усходзячым сонцам, малявалі „вокны", усялякія аздобы, прывязлі з вёскі Беляне Сакольскага павету цэлыя мяхі арыгінальных старасвецкіх вопратак і нат — вясковага музыку-скрыпача.

Наканец, каля палавіны лютага 1911 г. адбылася вечарына, тым больш памятная, што ўшанаваў яе сваей прысутнасцю с.п. Іван Луцкевіч, сумысля прыехаўшы з Вільні.

Быў насамперад прачытаны рэферат на тэму: „Адгалосак душы беларускага народу ў яго песнях, казках і легендах".

Далей пяяў хор і была пастаўлена камедыйка Каганца „Модны шляхцюк". Як яна сыйшла няхай сведчаць словы І. Луцкевіча: (з карэспандэнцыі памешчанай у „Нашай ніве", н-р 8, 1911 г.) — „Я дзіваваўся, гледзячы на артыстаў, як яны ўмелі надглядзець, падсцерагчы характар вясковых сватанняў, умелі ўстроіць усё так, як яно па праўдзе бывае ў хаце беларускай". У канцы карэспандэнцыі кажа: „Вынес я ў падзяку за прыемны вечар веру, што горадзенская беларуская моладзь родную справу пасуне ўперад".

Так, была надзея...

У вечары гэтым прымалі ўдзел: Л. Сівіцкая (Ганка), І. Левіцкі (бацька), К. Колышко (шляхцюк), В. Семяновіч (Ігнась), Я. Леўковіч (сват). А. Зянюк — суфлёр, А. Бычкоўскі — рэжысёр. Дэклямавалі і належэлі да хору: А. і М. Салянкоўны, Ю. Грынкевічанка, С. Кундоўна, Касацкая, М. Бобрыкоўна, Ф. Лабенец, А. Спевак, Э. Кунда і другія.

У пару тыдняў пасля ўвесь склад артыстаў, хор і аркестр струнных інструментаў, паехалі ў Сакольшчыну, дзе ў маёнтку Дубніца быў паўтораны вышэй апісаны спектакль.

Гарачыя, маладыя арганізатары спектаклю, маючы адно вялікае жаданне: ісці „ў народ", не раздумвалі да якіх вынікаў можа іх давясці гэтая паездка. Справа ў тым, што дазволу ад паліцыі на вечарыну не было, а да гэтага адбылася яна ў маёнтку горадзенскага архірэя, аб чым арандатар і жыўшы ў маёнтку манах не абмінулі ў хуткім часе архірэя паведаміць. Справа адразу апынулася ў губернатара і толькі дзякуючы знаёмству з адным чыноўнікам губернатарскай канцылярыі, удалося яе схаваць „пад сукно".

У тым жа самым школьным годзе ў траўні (май) месяцы адбылася маёўка, на каторай Г. Г. Б. М. развітаўся з вялікім жалям з сваім арганізатарам і першым старшынёю Адамам Бычкоўскім, каторы скончыўшы гімназію выязджаў з Горадні.

Нядоўга паждаўшы ўсе сябры гуртка раз'ехаліся на летні адпачынак.

**(Заканчэнне будзе)**

**Л. С-Ш.**
**(Зоська Верас)**

P.S. Успомнены тут І. Левіцкі — гэта Язэп Язэпавіч Лявіцкі, народжаны, праўдападобна, у 1893 г. малады тады беларускі паэт, родам з хутара Горны Хлеўск, што на Беласточчыне, удзельнік беларускага літаратурна-грамадскага руху ў Петраградзе, у якім вучыўся ён у 1913-15 гадах ва універсітэце і ваенна-медыцынскай акадэміі. Выступаў пад псеўданімамі Юрка Снапко, Дзядзько. Загінуў трагічна на фронце падчас І сусветнай вайны ў канцы 1916 г.

Загадчык хору Янка Ляўковіч быў родам з вёскі Біты Камень, што на Беласточчыне.

# ДНІ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

( Працяг са стар. 1 )

Антаніна Сакалоўская) паказалі спектакль К. І. Галчынскага „Аб далікатнасці пачуццяў”. У чацвер у Зэльве выступаў калектыў „Нарвяне”.

15 лістапада ў медінстытуце адкрылася выстаўка Яніны Язерскай і Багуслава Каберскага „Мэбля і прыстасаванні для дзяцей з адхіленнямі ў фізічным развіцці”. Вечарам у клубе „Беласток” выступіла Галена Мяшкунец. У Ашмянах спявалі бельская „Маланка”, у Абухаве — „Любашкі” з Дабрывады.

16 лістапада ў Абласным палацы піянераў і школьнікаў даў свой канцэрт дзіцячы ансамбль песні і танца „Скаўронкі” з Бранска. У рамках клуба „Беласток” адбыўся парад на вуліцах Гародні старой аўтамабільнай тэхнікі. Пані Тэрэса Слоніч з салону „Грацыя” паказала шлюбныя ўборы (можна было нешта выбраць і купіць), потым гурт „І ніц...” запрапанаваў моладзі дыскатэку і наканец былі прадстаўлены карыкатуры Казімежа Фалькоўскага. У суботу ў Эйсмонты паехалі з праграмай „Курпе зелёнэ”.

17 лістапада, у нядзелю, у тэатры правёўся гала-канцэрт, у якім выступілі „Скаўронкі” і ансамбль песні і танца „Курпе зелёнэ”. У антракце салон „Грацыя” дэманстраваў шлюбныя ўборы...

У Гародні і ў раёнах праводзіліся сустрэчы чытачоў з літаратарамі і крытыкамі, палякамі і беларусамі — Вальдэмарам Смашчам, Аляксандрам Баршчэўскім, Янам Чыквіным, Янам Ляончукам, Уладзіславам Сэрчыкам.

Расказвае **Марк Аляксандравіч Копп**, дырэктар Дома народнай творчасці:

— Я памятаю пачаткі нашага супрацоўніцтва, у 1957 годзе. Паехаў на Беласточчыну тады калектыў з вучылішча культуры і Гродзенскага педінстытута імя Я. Купалы. Былі мы ў Беластоку, Гайнаўцы, Ломжы, Замброве... Потым пачаўся абмен. Цяпер гэты абмен сістэматычны, мы пастаянна прадстаўляем нашы дасягненні ў галіне культуры. Падпісаны дамовы аб сувязях між праўленнем культуры гродзенскага аблвыканкама і ваяводскай управай у Беластоку. Абмен ідзе не толькі „згары” — супрацоўнічаюць калектывы, раёны, навучальныя ўстановы, мастацкія кіраўнікі. На сённяшніх паказах — поўныя залы, усе цікавяцца...

— Я не заўважыла асаблівай рэкламы на вуліцах. Толькі некалькі стэндаў у месцах, дзе праводзяцца мерапрыемствы, на аўтобусах невялікія плакаты, але дакладных вялікіх паведамленняў, што і дзе адбываецца кожны дзень, я не заўважыла, — звяртаюся да **Зінаіды Мікалаеўны Арцюховіч.**

— Сорамна прызнацца, але не змаглі мы зрабіць такія плакаты. Наборшчык вялікіх шрыфтаў, які, адзіны ў Гародні, ведае беларускую мову, быў на адпачынку, і можна было надрукаваць толькі невялічкія брашуры. Але і газеты, і радыё, і тэлебачанне інфармавалі дакладна, што цікавага можна будзе пабачыць і пачуць. Павядомлены былі ўстановы, таварыствы, школы. Бачыце, наша паліграфія яшчэ не перабудавалася!

— Як з далейшым супрацоўніцтвам у такі цяжкі для культуры час?

— Гэта залежыць і ад нас, і ад суседзяў, ці змогуць прыняць нас з рэвізітам, — кажа **Віктар Аляксандравіч Губіч** з упраўлення культуры аблвыканкама. — У 1989 годзе ў лютым мы „высадзілі” на Беласточчыне вялікі „дэсант” нашага аматарскага, прафесійнага мастацтва, выяўленчага. Было за тысячу нашых удзельнікаў, 5 выставак на амаль цэлай Беласточчыне. На заключальным канцэрце было больш дзесятка „ікарусаў”... Цяпер кажам: „Прыязджайце хутчэй, бо і ў нас не будзе грошай на культуру!” Абмен пакуль вельмі шырокі, мы аж задыхаемся з патокам выязных дакументаў. А такія дні культуры, як гэтыя, вельмі карысная — паказваем на такім „сканцэнтраваным свяце” згустак усяго, што маем найлепшага.

**МІРА ЛУКША**

******************************************************

## ДА ПРАЦЫ ТРЭБА МЕЦЬ ЗАМІЛАВАННЕ

( Працяг са стар.1 )

праграму? Вы напішыце, што людзі хочуць бачыць на старонках „Нівы” зноў праграму польскага, а добра было б каб і беларускага тэлебачання. Тады напэўна лік падпісчыкаў пабольшыцца.

— *Дзякую за размову. Я аб праграме напэўна напішу, але Вам напамінаю, што „Ніва” чакае Вашых допісаў.*

**Размаўляў**
**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## „ІНТЭЛІГЕНТНЫ” ЗЛОДЗЕЙ

Міхася на вуліцы абагнаў незнаёмы малады мужчына. Глянуў на яго, а пасля піхануў так, што Міхась паваліўся на тратуар.

Акурат тады ішоў дождж і Міхасёва вопратка выпэцкалася ў гразі.

— Ой! Прабачце! Я памыліўся, — пачаў перапрашаць незнаёмец, — я думаў, што вы гэта той мужчына, які чапляўся да мяне месяц таму.

— На другі раз добра прыглядайся, пакуль рукамі будзеш махаць, — сказаў расхваляваны Міхась. — Вопратка як у п'яніцы нейкага.

— Я вам яе пачышчу, — сказаў незнаёмец. Выняў з кішэні хустачку і пачаў выціраць гразь з вопраткі. Яшчэ раз перапрасіў ды пайшоў.

Увайшоў Міхась у краму ды хацеў выняць кашалёк. Абшукаў усе кішэні. Кашалька не было.

— Абакраў мяне! — крыкнуў не сваім голасам мужчына. Выбег на вуліцу, каб дагнаць злодзея, але па ім і след прастыў.

**АЎРОРА**



# ШТО ЧУВАЦЬ У НАРАЎЦЫ

Пра Нараўку расказвае дырэктар тамашняй пачатковай школы і адначасна старшыня Гміннай рады **Яўген Валкавыцкі:**

„Справа з грашмі ў нашай гміне выглядае някепска. Я думаю, што Нараўка гэта адна з нямногіх гмінаў, дзе нешта робіцца. Будуецца ачышчальня сцёкаў, асяродак здароўя, дом культуры. Узнік нядаўна жыллёвы кааператыў, які ставіць у Нараўцы тры блокі. Нават людзі з Гайнаўкі паперанасілі свае грашовыя ўклады, бо ў нас хутчэй атрымаюць кватэры. Каб такі кааператыў быў створаны дзесяць гадоў таму назад, працэс адыходу маладых людзей з нашае зямлі напэўна значна прыпыніўся б. Ці ўсе яны знойдуць тут месца працы? Спецыялістаў патрабаваць будзе суполка „Гольгаз”, якая ў Плянце будуе перагрузачную станцыю газу з Савецкага Саюза. Гэтая суполка з Варшавы, але ў нашай гміне яна добра закаранілася, мае тартак і сталярню, яна якраз і будуе нам ачышчальню.

Поўныя перспектывы развіцця гміны звязаны з Семяноўскім вадасховішчам. Пакуль што няма яшчэ планаў яго загаспадарання, не мелі мы дагэтуль карысці ад турыстаў. Гміна зарабіла толькі на продажы зямельных участкаў у Луцэ. Да наступнага турыстычнага сезона войт мусіць прыняць канкрэтныя пастановы, якія ўпарадкуюць ваколіцу вадасховішча і арганізуюць там адпачынак над вадою. Трэба пачынаць ад самых простых спраў, вызначыць месцы пад палаткі, паставіць сметніцы і т.п. Наша паліцыя купіла ўжо сабе лодку і рыхтуецца адкрыць „вадзяны пастарунак”. Упарадкавання патрабуе яшчэ і гадоўля рыбы ў вадасховішчы.

Мы на форуме Рады гміны абмяркоўвалі справу пераходу асветы пад нашае кіраванне. Былі з гэтым ужо ў кураторыі, наведваліся таксама ў Нарве — прыглядаліся да іхняга дасведчання. Я як дырэктар школы (старшынства ў Гміннай радзе гэта ж грамадская функцыя) лічу, што асвета толькі скарыстае, калі зоймуцца ёю органы тэрытарыяльнага самакіравання. Калі школы будуць падпарадкаваны непасрэдна гміне, ёсць упэўненасць, што грошы, прызнаныя на асвету, сапраўды на яе пойдуць.

Пачатковая школа ў Нараўцы даволі вялікая, вучыцца тут 362 дзяцей, а ў прадшкольным аддзеле яшчэ 46 дзяцей. Маем клопаты з памяшканнямі, бо ў нас на 17 аддзелаў усяго 13 школьных залаў. Дзеці вучацца ў чатырох будынках, мяняюць іх, пераходзяць з аднаго ў другі, цяжка ўтрымаць чыстату. Цяпер, праўда, лягчэй, бо войт дапамог нам заліць асфальт на школьным панадворку. Ёсць клопаты з абагравaннем гэтых будынкаў, але ўжо мы купілі і ўстанаўліваем абсталяванне для спальвання драўляных апілак — мясцовыя тартакі вывозяць іх у лес, засыпаюць імі выбоіны на палявых дарогах. Можа, хаця восенню або вясною, калі няма вялікіх маразоў, не трэба будзе паліць вугалем.

Яшчэ спатрэбіўся б нам школьны аўтобус, бо наш ужо даволі старэнькі і мусіць рабіць па тры курсы зраніцы і пасля абеду. Давозім 127 вучняў з Масева, Альхоўкі, Скупава, Міклашэва і Плянты. У школе ёсць святліца, дзе гэтыя дзеці могуць пачакаць аўтобуса. Варым таксама суп для ахвотных, амаль усе дзеці ядуць яго і хваляць. Я лічу, што такая талерка супу лепш за шклянку гарачага малака ці гарбаты. І каштуе не дорага — усяго 20 тысяч у месяц.

Карыстаючыся нагодай, хацеў бы я тут пахваліцца нашым школьным вакальна-рухавым калектывам. Выступае ён не толькі ў школе і не толькі перад публікай нашай гміны. На святкаванні Канстытуцыі 3 Мая наш калектыў паспяхова выступіў у Гайнаўцы, а ў кастрычніку ездзілі мы з ім у Свіслач. У калектыве 60 вучняў, з усіх класаў, кіруе ім Аліна Саевіч.

Дрэнна выглядае ў нашай школе справа з навучаннем беларускай мовы. Ахвотных вучыцца ўсё менш. У пачатку школьнага года былі ў мяне нават пісьмы бацькоў з просьбай вызваліць ад навукі беларускай мовы тых дзяцей, якія ўжо вучыліся. Я аднак згоды не даў, але што зробіш, калі вучань возьме і не прыдзе на ўрок. Можа, каб была хаця нейкая агітацыя Беларускага таварыства за навучанне мовы, было б больш ахвотных. Таксама перад выбарамі людзі з нашае гміны чакалі каго-небудзь з Беларускага выбарчага камітэта — дарэмна. Думаю, што каб паявіліся такія людзі, інакш выглядалі б вынікі выбараў, ды і была б папулярызацыя беларускай справы”.



*Адзін з чатырох школьных будынкаў у Нараўцы.* **Фота М. Ваўранюка**

**Запісаў**
**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# Зорка
## Старонка для дзяцей

## Вершы Віктара Шведа

### КАЛІ НАЙБОЛЬШ РАСЦЕ ШЧУПАК?

Настаўнік запытаў дзяцей:
— Вось вы мне адкажыце,
Калі шчупак нам найхутчэй
Расце ў рачной вадзіцы?

— Тады найбольш расце шчупак, —
Сцвярджае малы Косця, —
Калі расказвае рыбак
Аб яго хуткім росце.

### МАЮЦЬ КАНІКУЛЫ БРАТЫ

— Чаму так горка плачаш ты,
Скажы мне, дарагая?
— Маюць канікулы браты,
А я яшчэ не маю.

— Можаш іх мець як і сыны,
Доню, з майго дазволу.
— Мне не належацца яны,
Бо не хаджу я ў школу.

### БУСЕЛ ГЭТЫ САМЫ?

Маленькую Галю
Шчаслівейшы тата
Прывёз са шпіталя
З мамаю дахаты.

Запытала маму
Малалетка-Зося:
— Бусел гэты самы,
Што мяне прыносіў?





*Першы сняжок.* **Фота Л. Пільскага.**

## Для самых маленькіх

**Віктар Шніп**

### СНЕГІРЫ

На гурбе
Скачуць
Снегіры
У нас ля вокан
На двары.
І клічуць
З санкамі дзяцей:
— Сюды хутчэй,
Хутчэй,
Хутчэй!..
І хоць малы яшчэ
Зусім
У паліто чырвоненькім
Да іх маленькі
Ігарок
Бяжыць,
Нібыта снегірок.

**Уладзімір Скарынкін**

### ЗДАГАДКА

Горад Слонім ёсць на Шчары.
Ды чамусьці не сланы
Топчуць ля яго абшары,
А ласі і кабаны.

Мой таварыш —
самы добры! —
Побліз Кобрына жыве.
Там вужакі, а не кобры
Выгінаюцца ў траве.

Ад уражанняў у Львове
Кругам пойдзе галава.
Ды не ўбачыш у дуброве
Там, за горадам, ільва.

Толькі быць не можа ўсё-ткі,
Каб у даўнія гады
Выпадкова
нашы продкі
Так назвалі гарады.

Пасвіў я кароў на пашы —
І здагадка апякла:
Некалі ў мясцінах нашых,
Пэўна, Афрыка была!



**Авяр'ян Дзеружынскі**

### НЕАДОЛЬНЫ

Той народ,
Які сее дабро,
Сее мірныя зярняты
Ва ўсім свеце,
Як праўда,
Як святло,
Як розум —
Неадольны!

### ПРАЎДА

Нельга знішчыць
Розум,
Бо ён — розум.
Нельга пагасіць
Сонца,
Бо яно —
Сонца.
Нельга перамагчы
Праўду,
Бо яна — праўда.

***

**Народная казка ў апрацоўцы Якуба Коласа**

Жылі-былі асёл, сабака, кот і певень.

Калі яны пастарэлі, дык гаспадары павыганялі іх з двара. Вось раз уночы сышліся ў лесе гэтыя выгнаннікі. Пазнаёміліся, здружыліся. Пачалі думаць, як на свеце ім жыць, чым заняцца. Самы разважлівы з іх, асёл, і кажа:

— А давайце спрабуем быць музыкамі.

Усім спадабалася такая думка, бо кожны з іх лічыў сябе артыстам у справе музыкі. І сапраўды ж: певень, як вядома, спявак з уроды, кот таксама, а сабака не толькі гаўкае, але і выць умее. Ну, і асёл з голасам, іначай ён і думкі такой не падаваў бы. Выстраіліся прыяцелі і пайшлі: асёл наперадзе, сабака за аслом, кот за сабакам, а певень — за катом. Ідуць яны, аж бачаць — далёка ў лесе хата стаіць. Спыніўся асёл.

— Давайце заспяваем! — кажа ён. — Сядайце на мяне!

Разагнаўся сабака, ускочыў на спіну аслу, кот сеў на сабаку, а певень на ката, дык так гаркнулі ўсе разам, ды на свой лад, дык аж лес задрыжэў. Звяры папалохаліся і пахаваліся хто куды.

— Добра выйшла! — пахваліў асёл.

Падышлі яны да самай хаты.

— Пачынай! — камандуе асёл.

Як грымнулі музыкі, дык аж хата затрэслася. А ў той хаце жылі бандыты. Папужаліся яны і кінуліся наўцёкі. Адчыніў асёл дзверы, і ўся капэла ўвайшла ў хату. А там яды і рознага дабра не злічыць. Наеліся, напіліся артысты і пачалі начаваць ладзіцца.

— Як я заўсёды на сметніку сплю, дык і сёння я лягу на сметніку, — кажа асёл.




— А я прывык спаць каля дзвярэй, дык і тут каля дзвярэй лягу, — азваўся сабака.

— А мне месца заўсёды на прыпечку, і сёння займу я прыпечак, — падае голас кот.

— А я прымайструюся на жэрдачцы пад страхой: такі ўжо звычай завялі мае бацькі і дзяды, — кажа пеўнік.

Размясціліся сябры і паснулі.

А бандыты гэтым часам у лесе стаіліся ды разважаюць, што ж гэта перапалохаў іх і што сталася з іхняю хатаю. Пасылаюць аднаго бандыта.

— Ідзі, — кажуць, — праведай, што там робіцца.

Падыходзіць бандыт да сваёй хаты. Заходзіць у хату — цёмна, нічога не відаць. Дастаў ён з печы смалячок, ідзе да прыпечка, каб агонь запаліць. Аж бачыць — два вугольчыкі блішчаць. Хацеў выгарнуць, а кот кіпцюрамі як драпане па руцэ! У таго і кроў пайшла. Кінуўся бандыт з хаты, а каля парога сабака як ірване яго за сцягняк! А тут і пеўнік як зляціць з жэрдачкі ды як дзюбане бандыта па галаве! Бандыт кулём за плот коціцца, а там асёл як штурхане яго нагою! Бандыт разоў тры перакуліўся ды бегчы ў лес! Прыбягае і расказвае:

— Быў я ў нашай хаце — бяда! Нейкая сіла заняла яе! Хацеў на прыпечку вугольчыкі раздзьмухаць, аж нехта шась мяне нажом па руцэ. Кінуўся ўцякаць, а мяне хтось каля парога па назе шабляй. А другі, як д'ябал, з-пад страхі вырваўся ды кап'ём мне ў голаў. Цераз плот пераскочыў, а там хтось даўбешкай як стукнуў мяне, разоў тры перакуліўся я... Прапала наша хата! Уцякайма!

Паўцякалі з гэтага лесу бандыты, і іх палавілі. А спевакі асталяваліся ў той хаце, жывуць-пажываюць і бяды-ліха не знаюць.

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

## МЫШКА ПІК-ПІК РАМАНТУЕ ТЭЛЕВІЗАР

Аднойчы тата, мама і дзяўчынка Веранічка паехалі на нядзелю ў вёску, і пакінулі мышку Пік-Пік у норцы спаць, а котку Пепіту — назіраць за мышкай, каб тая не ўлезла ў шкоду. Ночай прачнулася Пік-Пік і адчула, што настрою ў яе няма. Спалохалася мышка: „Мне нават есці не хочацца! Трэба хутчэй шукаць настрой, пакуль не пахудзела."

Пабегла мышка на кухню, з'ела зусім без апетыту качанчык капусты, закусіла цукеркамі, а настрой усё роўна не з'явіўся.

„Ага! — успомніла мышка. — У дзяўчынкі Веранічкі заўсёды з'яўляецца настрой, калі яна глядзіць мульцікі па тэлевізары. Трэба хутчэй бегчы і паглядзець мульцікі!"

Мышка лічыла, што мульцікі ў Менску паказваюць увесь час без перапынку, і не здагадвалася, што ночай тэлевізар увогуле адпачывае. Пабегла яна ў залу і хутчэй уключыла тэлевізар. Экран засвяціўся, загуў, але ніякіх мульцікаў мышка не ўбачыла. На экране мітусіліся нейкія шэрыя кропачкі — і ўсё. Пік-Пік пераключала ўсе каналы, але паўсюль было адно. „Сапсаваўся тэлевізар, — падумала мышка. — Вось гора. Трэба яго адрамантаваць!" І ўспомніла мышка, як тата рамантуе тэлевізар: ён стукае па тэлевізары кулаком, тэлевізар палохаецца і пачынае паказваць фільмы.

Падскочыла мышка да тэлевізара і забарабаніла па ім кулачкамі. Але кулачкі ў мышкі былі маленькія, і тэлевізар нават не спалохаўся. Тады мышка ўскочыла на яго і заскакала. Але безвынікова.

„Трэба ўзяць нешта цяжкое і вялікае, — падумала мышка, — і стукнуць па гэтым тэлевізары".

Палезла Пік-Пік пад тумбачку і выцягнула вялікі малаток, якім тата забівае цвікі. „Ну, зараз стукну! — падумала мышка. — Адразу мульцікі ўбачу!"

Але малаток быў такі цяжкі, што яна не змагла яго падняць. „Трэба зрабіць малаток лягчэйшым! — вырашыла мышка і паспрабавала аб'есці кавалак малатка, але трохі не зламала зуб.

Раззлавалася мышка і ўкусіла малаток за драўляную ручку, і са злосці ўсю яе з'ела. Малаток зрабіўся зусім маленькі, але ўсё роўна цяжкі. Узняла яго мышка над сабой, размахнулася — і не ўтрымала. Малаток упаў на мышку, мышка ўпала на падлогу, і такі грукат зрабіўся, што прачнулася котка Пепіта. Пабегла Пепіта ў залу і ўбачыла, што тэлевізар уключаны, мышка Пік-Пік ляжыць на падлозе, а на мышцы ляжыць малаток. „Чаму малаток зрабіўся такі маленькі?" — здзівілася Пепіта і ўзяла яго з мышкі, каб разгледзець. А мышка ўскочыла і пабегла хутчэй у норку.

„Нічога, — думала Пік-Пік. — Вось вернуцца заўтра тата, мама і Веранічка, прывязуць нешта смачненькае..."

І ад такой думкі ў мышкі адразу з'явіўся настрой, і яна соладка заснула.

**Людміла Рублеўская**



*Цікава, што сёння зрабіла мышка Пік-Пік?...*

**Мал. Паўліка Шэшкі.**

# Вершы пра родную мову

### КАЗІМІР КАМЕЙША

Цяжар страшэнны вісне над вякамі,
Але пакуль вачэй прамень гарыць,
Ты пэндзлем крок Скарынінскі шукаеш
І посахам выстукваеш муры.

У гэтых сценах новыя парадкі.
Балюча слову роднаму ізноў.
Над беларускай нівай груганом
Ляціць рагаты цень канфедэраткі.

О, мова матчына! Ты ў здзеку і заціску,
Тваё імя я сам табе вярну.
Я не дазволю спеўную калыску
Ператварыць у глумную труну.

Патрэбна воля зверу, птушцы, рыбе.
І ты пра гэту волю не маўчы.
Ляціць пагоня грозная Ярылы,
І сонца узыходзіць на мячы.

Яшчэ такой цямніцы не стварылі,
Дзе б стацца вязнем мог, як ты, твой век.
І слова друкаванае Скарыны,
І твар яго за словам ажыве...

### РЫГОР БАРАДУЛІН

Было спрадвеку, слова, ты,
Крыніцай чудадзейнай сілы,
Што вызваляла з нематы,
Айчыны ніву каласіла.

Ты наталяла смяглы рот
І выкрасала ўдар грамовы,
Каб сам сабою стаў народ,
Пачуўшы гукі крэўнай мовы!

### МІХАСЬ РУДКОЎСКІ

... Вазьмі, як выток, як аснову
І як вянец усяго —
Адвечнае матчына слова,
Пяшчоту і сілу яго.

Яно табе, дзе ты ні будзеш,
У радасці і у журбе
Напомніць, што ёсць недзе людзі,
Якія чакаюць цябе.

### АНАТОЛЬ ГРАЧАНІКАЎ

... Яшчэ адрасталі ў здраднікаў рогі,
Яшчэ не снілася ім помста-адплата —
А мы ў свой дзіцячы ўзрост шпачыны
Крывёй ўцямілі да драбніцы:
Хто адцураўся маці-Айчыны, —
Мовы яе той нават — баіцца.




## РАПУХА ЧАРОТНАЯ

Рапуха чаротная жыве ў Заходняй Еўропе. На Беларусі рэдкая, трапляецца спарадычна, колькасць яе скарачаецца. Рапуха гэтая жыве на пясчаных участках паблізу забалочаных месцаў, у хваёвых лясах, на палях, лугах, балотах, у агародах і садах. Месцы пражывання рапухі чаротнай змяняюцца пад уплывам гаспадарчай дзейнасці чалавека. У месцах, найбольш спрыяльных для жыцця рапухі на адзін гектар трапляецца ад 25 да 200 асобін. Прычыны змяншэння колькасці — меліярацыя і інтэнсіўнае выкарыстанне тэрыторыі ў гаспадарчых мэтах, уздзеянне мінеральных угнаенняў і ядахімікатаў.

Рапуха чаротная корміцца насякомымі і іх лічынкамі, малюскамі і іншымі беспазваночнымі, сярод якіх многа шкоднікаў сельскай і лясной гаспадаркі. Рапуха чаротная — аб'ект харчавання вужоў, буслоў, канюкоў, тхароў, барсукоў. Занесена ў Чырвоную кнігу БССР.

Даўжыня цела рапухі чаротнай — 5-6 (зрэдку да 8) см. Скура бугрыстая, зверху шаравата-аліўкавая з цёмнымі плямамі, знізу брудна-белая з дробнымі плямкамі. Ад іншых рапух адрозніваецца светлай палосай уздоўж сярэдзіны спіны і галавы. Актыўная на змярканні і ноччу. Удзень хаваецца пад камяні, паваленыя дрэвы, зарываецца ў глебу. Адносна хутка бегае (не поўзае і не скача), добра плавае. Палавая спеласць ва ўзросце 3-4 гадоў. Самцы падаюць гучныя, рэзкія і скрыпучыя шлюбныя крыкі „эррр-эррр-эррр" або „ра-ра-ра". Ікру рапуха адкладвае з красавіка да жніўня. Кладка ікры ў два рады шнурам даўжынёй да 1,5 — 1,8 м. Развіццё лічынак каля 50 сутак, пасля чаго маладыя асобіны пакідаюць вадаёмы і жывуць на сушы. На зіму рапуха чаротная закопваецца ў зямлю. Месцы зімоўкі пакідае ў красавіку.



*****




246045, Беларусь, г. Гомель, вул. Агарэнкі 29-44, **Паздснякова Юля** (12 гадоў, збірае паштоўкі, любіць чытаць, адкажа на кожны ліст).

* * *

210029, Беларусь, г. Віцебск, вул. Праўды, д. 41 „А", кв. 9, **Кавалёва Юлія** (11 гадоў, любіць жывёл — гадуе сабачку і папугая).

* * *

225154, Беларусь, Брэсцкая вобл., Пружанскі раён, г.п. Ружаны, Дом піянераў, Клуб інтэрнацыянальнай дружбы „Планета". (Сябрам клуба — па 12-15 гадоў).

**Беларускія гульні**

## ГАРНУШАК

Дзеці садзяцца на лаву, якая стаіць пасярэдзіне пляцоўкі, плячыма адзін да аднаго. Адзін з удзельнікаў гульні называецца гарнушкам. Ён ходзіць вакол чарады і раптам стукае каго-небудзь па калене і крычыць! „Гарнушак!" Той зрываецца з месца і бяжыць вакол лавы, стараючыся апярэдзіць гарнушка, які таксама бяжыць, але ў іншым напрамку. Хто раней зойме месца на лаве, той выйграе, а другі дае фант і становіцца гарнушкам.






**Колькі квадратаў сярод гэтых фігур?**

 




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

— 51 —

Ластоўскі, выпаўняючы першы параграф беларуска-літоўскага дагавору, абапіраўся на дэкларацыю, з якой выступіў у свой час у Ковенскім Сейме прэм'ер-міністр Грынюс.

„1. Перад Лігай Нацый Ковенская Літва гарантуе для ўсходняй Літвы (Віленшчына) крэсавую аўтаномію з уласным Сеймам у Вільні.

2. Гэты аўтаномны Сейм мае прыняць пастанову, гарантуючую правы беларускай мове, будзе адкрываць беларускія школы, суды і будзе весці ўсю беларускую гаспадарку.

3. Агульны Літоўскі Сейм у Коўне, спалучаны з аўтаномным Віленскім Сеймам, будзе кіраваць замежнымі справамі, якія адносяцца да вайны і міру. Будзе існаваць супольная армія, фінансы і ўправа чыгункамі.

4. Літоўскі Сейм гарантуе для народаў усходняй Літвы (цэнтральнай) беларусаў, палякаў, яўрэяў і татараў поўную аўтаномію, прызнаючы іх мовам роўныя правы."

Чацверты пункт прыведзенай дэкларацыі Грынюса староннікі Ластоўскага стараліся выкарыстаць з мэтай каардынацыі перадвыбарчай акцыі яўрэяў і беларусаў. Дасягнулі мэты. Яўрэйская прэса заявіла, што адносіны яўрэяў да віленскіх выбараў будуць залежаць ад пазіцыі, якую ў гэтай справе зоймуць беларусы.

Урад Ластоўскага на пасяджэнні 6-XII-1921 г. прыняў наступную пастанову:

„Беручы пад увагу:

1) што тэрыторыя Цэнтральнай Літвы, штучна выключаная з цэласці, не можа стаць незалежным арганізмам,

2) што выбары ў Сейм мусяць быць праведзены пад польскай акупацыяй і пад уплывам акупацыйных уладаў,

3) што актыўныя беларускія сілы былі названымі вышэй уладамі загнаны ў турмы, канцэнтрацыйныя лагеры і замежную эміграцыю, а тыя ўсе, што засталіся ў краіне, тэрарызаваныя, **пастаноўлена выбары ў Віленскі Сейм байкатаваць.**

Згодна з гэтай пастановай Беларускі народны камітэт у Вільні прыняў уласную пастанову, у якой былі выкладзены матывы, з-за якіх беларусы на Віленшчыне не могуць прыняць удзел у выбарах у Сейм. Вось гэта пастанова:

„Беручы пад увагу:

1) што Заходняя Беларусь — тэрыторыя, якая адышла ад Расіі, раздзелена паміж Цэнтральнай Літвой і Польшчай,

2) што ў канфлікце паміж Рэчыпаспалітай Польскай і Літоўскай Рэспублікай адносна тэрыторыі Цэнтральнай Літвы ў межах, у якіх беларусы з'яўляюцца абсалютнай большасцю, голас беларускага люду не бярэцца пад увагу,

3) што створаны зараз Сейм Цэнтральнай Літвы мае рашаць толькі аб адной частцы Заходняй Беларусі, тады калі большасць пазбаўлена права на самавызначэнне,

4) што нягледзячы на неаднароднасць жыхароў Цэнтральнай Літвы і спрэчнай тэрыторыі, уся ўлада знаходзіцца ў руках адной польскай нацыянальнасці і тым самым у значнай ступені ў руках не грамадзян гэтай краіны,

5) што заданні і характар Сейма афіцыйна не акрэслены, сам факт яго стварэння, пры аднабаковасці ўлады, не дае гарантыі, што праектаваны Сейм будзе сапраўдным выражальнікам волі гэтай краіны,

6) што ў перыяд каля трох гадоў, усякімі сродкамі, даступнымі дзяржаўнай уладзе, праводзілася на беларускіх землях палітыка нацыянальнага прыгнёту беларусаў, закрываліся беларускія школы, эканамічныя арганізацыі і спыняліся розныя дзеянні, мэтай якіх было культурнае развіццё беларускага народу,

7) што пасля трох гадоў такой палітыкі сёння ў кароткім 30-дзённым перыядзе выбараў, у якім разгубленае, дэарганізаванае беларускае насельніцтва не паспее свабодна выразіць свае думкі і жаданні, тым болей што не атрымала яно ніякіх абяцанняў адносна гарантыі свабод і што ў далейшым улады праводзяць палітыку закрывання беларускіх школ, рэпрэсій у адносінах да беларускай прэсы і г.д. (...)

*(Працяг будзе)*




Дарагое Сэрцайка, чаму ў жыцці так здараецца, што калі жывеш учціва і пабожаму ўсё робіш, дык чалавеку гэта не аплочваецца. То ж павінна быць так, што калі ты чалавек з прынцыпамі, калі робіш людзям добра, калі кахаеш толькі мужа, дбаеш пра сям'ю, дык, здаецца, жыццё павінна быць услана ружамі. Я старалася жыць так, як навучылі мяне бацькі. А заўсёды казалі яны: „Памятай, каб праз цябе ніхто не плакаў!" А вось жа кінуў мяне муж і застался я адна з дзецьмі. Бяда, клопаты, брак грошай, дзіцячыя хваробы — усё на маёй галаве. А сяброўкі мае мелі іншы старт, а жывуць намнога лепш.

Вось учора сустрэлася я са сваёй даўняй школьнай сяброўкай. Была гэта дзяўчына вельмі лёгкіх паводзін, ледзь скончыла школу, ды і то вячэрнюю. Вучыцца ёй не хацелася, хацелася толькі гуляць, малявацца, бываць на дыскатэках. Хадзіла з рознымі хлопцамі — без разбору. А пасля, я чула, стала прастытуткай, якая звычайна абслугоўвала гасцей у гатэлі. А калі не было пад рукой нікога „лепшага", дык ішла і за пачку папяросаў. Ужо ўсе пра гэта ведалі, і цяжка ёй было знайсці хлопца, які хацеў бы з ёй хадзіць пастаянна. А вось жа знайшла, аднак, нейкага будаўніка, што прыехаў здалёк. Былі разам тры месяцы, пасля даведаўся пра яе ўсёй праўды і зрэзыгнаваў. Вельмі яна перажывала гэты факт і кінулася ізноў у прастытуцыю.

А вось жа ўяві сабе, Сэрцайка, што замуж усё ж такі выйшла. За багатага і разумнага, але таксама не беластачаніна. Прыехаў, нераспаўся, ажаніўся. Стала вельмі добрай жонкай і маці, хаця пра „практыку" сваю не забылася. Але да мужа была вельмі мілая, і ён абсыпаў яе футрамі і біжутэрыяй. Быў закаханы. Сёння мае яна цудоўны дом, дзеці вельмі добра вучацца, ездзіць па заграніцах, гуляе з кім хоча, а муж толькі і стараецца, каб зарабіць як мага больш граша для сваёй каханай жонкі.

Мілае Сэрцайка! Адкажы мне, дзе тут логіка і ці варта быць адданай свайму мужу. Дзеля чаго? Каб плюнуў на цябе?

**Ёлька**

Ой, Ёлька, Ёлька! Цяжка параіць табе ў тваёй бядзе. З каханнем яно наогул бывае так, што ў кожнага свой раздзел. Няма нейкай вызначанай схемы, паводле якой чалавек можа жыць і кахаць. У кожнага свая дарога. Недзе нешта ты празявала са сваім мужам — інакш бы не кінуў. Мо сапраўды была ты занадта шчырая, а гэта таксама часамі адпіхае мужчыну.

Прастытуткі, яны наогул ведаюць, як з мужчынамі паступаць, і, калі ўжо такая прывяжа, дык надоўга. Як правіла, былыя прастытуткі бываюць вельмі добрымі жонкамі і ідэальнымі маці. Нічога дзіўнага, найбольш сумавалі па гэтым у перыяд сваёй бурнай „дзейнасці".

**СЭРЦАЙКА**




**З ІТАЛЬЯНСКАЙ КУХНІ**

**Свіныя ножкі фаршыраваныя**

На 4 свіныя ножкі трэба ўзяць 50 г саланіны, 150 г труфеляў (у нас прапануем узяць пячурыцы), соль і перац.

З ножак асцярожна сцягнуць скурку, мяса аддзяліць ад касцей, змалоць у мясарубцы разам з саланінай, перамяшаць з пасечанымі грыбамі, соллю і перцам. Атрыманай масай напоўніць скурку з ножак і зашыць яе. Ножкі палажыць у халодную, кіпячоную, пасоленую ваду — на літр вады трэба ўзяць 2 лыжкі солі. Тады ножкі вэндзяць, а перад ядой ножкі зноў мочаць і вараць у вадзе каля адной гадзіны. Можна іх есці халоднымі і гарачымі.

**Фаршыраваная бараняя лапатка па-міланску**

На 1 кг лапаткі з маладога барана ўзяць 150 г белага хлеба, 1/4 шклянку малака, 1 цыбуліну, зеляніну пятрушкі, соль, перац, крыху мушкатнага арэха (мушкаталовай галкі), масла, алей, 1 кілішак белага віна, 1 лыжку таматнага канцэнтрату, прыправу для супоў.

Адразу ў разніка італьянцы просяць, каб выразаў у лапатцы кішэні. Хлеб намачыць у малацэ, дадаць солі і перцу, перамяшаць з дробна пасечанай і стушанай з маслам цыбуляй, а таксама нарэзанай зялёнай пятрушкі. Гэтай масай фаршыруем лапатку і зашываем яе. Падсмажваем яе на гарачым тлушчы і тушым, дадаўшы віно, таматны канцэнтрат і прыправу для супоў. Гатовую лапатку нарэзваем скрылёчкамі і падаем з макаронам, перамешаным з сырам „пармезанам" і грыбамі.

**Баранія робрышкі па-балонску**

Бярэм 4—8 робрышак, 150 г шынкі, 100 г пячурыц, 2 струкі салодкай папрыкі, 2 струкі вострай папрыкі, 50 г масла, 1/4 літра соусу з вінам „мадэра".

Робрышкі з аднаго боку пасыпаць соллю і перцам і абсмажыць іх. Плоскую вогнетрывалую форму добра змазаць маслам. Робрышкі палажыць у форму, падсмажаным бокам уверх, палажыць на іх дробна нарэзаную шынку і грыбы і спырснуць растопленым маслам. Папрыку дакладна ачысціць з насення, парэзаць на малыя кавалачкі і тушыць 5 мінут на алеі. Тады падрыхтаваць соус з „мадэры", паліць ім робрышкі, палажыць зверху папрыку і запякаць 15 мінут у сярэдняй тэмпературы.

**ГАСПАДЫНЯ**




Шаноўны Астроне! Нашай сям'і сняцца ў апошні час вельмі нядобрыя сны. Мне нядаўна снілася, быццам я пайшла мыць рукі ў прыбіральню, а не ў ванну. Я гляджу, а там унітаз вельмі брудны, увесь зароблены, на сценках кучкамі ляжалі нячыстасці. І я не мыю рукі пад кранам у ракавіне, а ўсаджваю іх у гэты унітаз і мыю. Не ведаю, як я гэта рабіла, але памятаю, што мне было гэта вельмі непрыемна. Аднак жа, калі я рукі памыла, дык яны былі ўсё ж чыстыя.

А маёй дачцэ прыснілася, што яна мае другі раз выходзіць замуж за свайго мужа. Дагаварыліся сустрэцца з ім каля белага касцёла Роха. Ужо вось-вось мела яна ехаць, але раптам бачыць, што ў яе ўся сукенка ў плямах. І так яна едзе ў касцёл, а перад касцёлам сустракае сваю свякруху і гаворыць ёй, што яна не можа ўзяць шлюб, бо не мае ў што апранцуца. А тая адказвае, што гэта нічога, што возьме шлюб іншым разам. Ды яшчэ сказала, каб яна не перажывала, што не будзе з чаго зрабіць гасціну, што зробіцца другі раз — гэта не бяда.

Вельмі непакоюся з прычыны гэтых сноў. Справа ў тым, што мая дачка шукае працы, а вядома, як ёсць сёння з працай, а я збіраюся ехаць за граніцу — можа ўдасца там папрацаваць, але таксама ўпэўненасці не маю, што будзе і як будзе. Памажы разгадаць гэтыя сны, Астроне!

**Кацярына**

Кацярына! Сны сапраўды не прадвяшчаюць нічога добрага. Але датычыцца яны будуць, бадай, не цябе, а тваёй дачкі. Справа ў тым, што нават у гэтым тваім „брудным" сне ў цябе былі чыстыя рукі. Але нячыстасці, непрыемнасці былі вакол цябе.

Што датычыцца сну дачкі, дык ён выразна сведчыць аб тым, што ў нечым ёй не пашанцуе. За гэта гавораць многія элементы яе сну: і касцёл, і сукенка ў плямах, і няўдалы шлюб. Бадай будзе гэта датычыцца працы. Але мо ўсё яшчэ неяк направіцца.

**АСТРОН**

************************************************

## ПЫТАЙЦЕ ПРА РЫЦАРАЎ

Некалькі дзён таму назад у кіёсках „Рух" паявіўся ў продажы першы сшытак пад загалоўкам „Нязнаныя рыцары", падрыхтаваны і выдадзены выдавецкай афіцыняй „Сумежжа". Кніжыца гэтая адкрывае цыкл расказаў, абгрунтаваных на цікавінках з жыцця знатных, у сэнсе як пазітыўным, так і негатыўным, людзей, якія сваімі ўчынкамі мелі значны ўплыў на гісторыю. Цыкл пачынаецца ад глыбокага сярэдневякоўя, калі рыцары з усяго свету цягнуліся са сваімі дружынамі бараніць Святую Зямлю ад сарацэнаў, і будзе працягвацца аж да нашых часоў. Бо ці ж цяпер, нават у кіраўніцтве нашай краіны няма „рыцараў"? А ці ўсё мы аб іх ведаем? Як жа цікава ўсё выглядае, калі глянуць на гэта з-за плоту. Ну, дык пачынайма. Хопіць толькі купіць у кіёску за адзіныя 5.000 зл памянёную кніжыцу. На гэты раз рыцар Айвангоў, а наступным — часы зусім сучасныя, бліжэй Бельведэра. Пытайце пра „Нязнаных рыцараў"!

************************************************

 

## ІМПАРТГУМАР

Іншапланецяне пастанавілі паглядзець, як жывуць людзі ў розных краінах і выслалі лётаючыя талеркі са сваімі людзьмі ў Амерыку, Францыю і Расію.

Праз два месяцы вярнулася талерка з Амерыкі, уся аблепленая этыкеткамі, а іх таварыш у джынсавым касцюме. Добра жывуць!

Праз тры месяцы вярнулася талерка з Францыі. Выходзіць з яе таварыш у прыгожым касцюме, ад яго ідзе прыемны пах духоў. Добра жывуць!

Праз год штосьці плюхнула. З Расіі вярнуўся сябар. Талерка паржавела, а за пюпітрам сініць іншапланецянін. Пачалі адкрываць — ніяк! Люк высеклі, таварыша ледзь разбудзілі. Ён як толькі абудзіўся, непабрыты, дзікім голасам закрычаў:

— Што? Зноў піць? Не буду!

* * *

— Што цяпер даюць за рублі?

— Цяпер нічога не даюць, а ў хуткім часе будуць даваць аплявуху.

* * *

— Таварыш міліцыянер, скажыце, па гэтай вуліцы хадзіць бяспечна?

— Калі б было бяспечна, я тут не хадзіў бы.

* * *

Муж нечакана вяртаецца з камандзіроўкі і застае жонку з палюбоўнікам. Ён дастае пісталет і застрэльвае выбранніцу.

Суд палічыў, што да забойства дайшло ў стане ўзбуджэння, і выпусціў яго. Калі былы абвінавачаны выходзіў з суда, суддзя яго запытаў:

— Скажыце, чаму вы забілі жонку, а не палюбоўніка?

— Я палічыў, што лепш будзе адзін раз застрэліць жонку, чымсьці кожны тыдзень забіваць яе палюбоўнікаў.

* * *

Замежны госць шукаў ноччу гасцініцу і ўваліўся ў адкрыты каналізацыйны люк. Калі вылез адтуль, голасна вылаяўся. А тут якраз ішоў міліцыянер.

— У чым справа, грамадзянін?

— Чаму ў вас не абгароджваюць яму чырвонымі флажкамі, як у кожнай нармальнай краіне?!

— А вы, калі цераз граніцу пераязджалі, чырвоны флаг бачылі?

— Бачыў.

— Ну тады якія прэтэнзіі?

* * *

Да лекара прыйшла бабуля і кажа:

— Доктар, усё мне баліць.

— Ідзіце, бабка, за занавеску, раздзявайцеся.

— Зусім?

— Зусім, зусім, бабка.

Праз нейкі час адсоўваецца заслона, і бабуля кліча:

— Ну, ідзі сюды, гвалтаўнік.

* * *

Судзяць гомасексуаліста. Суддзя дазваляе яму сказаць апошняе слова.

Абвінавачаны:

— Высокі суд! Мне вельмі, вельмі спадабаўся пракурор.

* * *

Пытанне да армянскага радыёвяшчання:

— Які самы прыгожы горад?

— Вядома, Ерэван.

— А колькі трэба бомбаў, каб яго знішчыць?

— Чаму Ерэван? Тбілісі таксама прыгожы горад.

Падборку зрабіў
**Янка Целушэцкі**





*- Я не лайдак - у мяне статус беспрацоўнага.*
Мал. М. Гіргеля („Вожык")

## АБ'ЯВЫ

### МЯНЯЮ

... сушаных жаб на свежамарожаную рыбу (званіць пасля 18-ці, спытаць Буслава).

... айчыннага быка на імпартнага індыка.

... мужчынскі характар на жаночыя італьянскія боты 39-га памеру.

... візітку на лямпачку Ільіча.

### ПРАДАЮ

... душу д'яблу. Рублі не прапаноўваць.

Знойдзены ў электрычцы помнік майму дзядзьку Старавойціку П. М. прашу даставіць прама на магілкі.

Адчыняю любыя дзверы без ключа. Пісаць на адрас: п/я 218321.

Лячу і вылечваю на адлегласці. Просьба паведаміць дыягназ і суму ўкладу ў ашчадбанку.

*Запісалі Н. Высоцкая*
*і С. Сініца („Вожык")*

## ЯК ЗЛАВІЦЬ СТРАУСА?

**(каламбур-анекдот)**

Паручнік Ржэўскі прачнуўся і кліча дзеншчыка.

— Ванька!

— Слухаюсь, ваша благароддзе...

— Шампанскае ёсць?

— Нямашака. Асабіста ўчора дапілі.

— Тады давай анекдот.

— Анекдота няма, ёсць толькі каламбур: як злавіць страуса?

Каб злавіць страуса, трэба ўзяць лысага мужчыну і закапаць яго ў пясок так, каб лысіна была наверсе. Страус падумае, што гэта ягонае яйцо і стане наседжваць. Тады трэба схапіць яго за ногі... І трымаць...

Неўзабаве паручнік знайшоўся на вельмі важным прыёме і пасля адпаведнай дозы гарэлкі стаў расказваць:

— Паважаныя спадарыні і спадары, магу расказаць вам каламбурчык?

Крыкі:

— Брава! Брава!

— Як злавіць страуса? Трэба ўзяць лысага мужчыну і закапаць у пясок, каб яйцы былі наверсе. Страус падумае, што гэта яго яйцы і стане наседжваць. Тады яго і трэба хапіць за ногі.

Усе гучна засмяяліся, а калі супакоіліся, састарэлая спадарыня дэ Монсе пытае з пранонсам:

— Прабачце, паручнік. Я аднаго не зразумела: чаму трэба браць лысага мужчыну?

Ржэўскі чухае патыліцу:

— А чорт яго ведае, можа ў лысых яйцы большыя...

*(„Парадокс")*

********************************************

## У ЧАРЗЕ

**(гумарэска)**

Зайшоў у малочны — смятану даюць. Праўда, чарга, як калісьці ў маўзалей. Пераважна жанчыны. Але ёсць і мужчыны. Стаю за лысым, флегматычнага выгляду мужчынам. Стаю і радуюся. Смятана ў магазіне не кожны дзень бывае.

— Не ведаеце, густая ці рэдкая? — пытаюся ў лысага.

— Вам не ўсё роўна? Абы смятана! — акінуў ён мяне позіркам, нібы пераконваючыся, ці варта з такім весці размову. — А за гушчынbackward не турбуйцеся. Яны з густой рэдкую зробяць запраста. Хе-хе.

— Цікава, з якога яна рэгіёна? — кажу сам сабе ціха.

— А вам не ўсё роўна? Абы смятана.

— Так можна ж хваробу падчапіць... Што і не ачухаешся.

— Хіба не ўсё роўна? Усе пампрэм. Не цяпер, дык у чацвер. Хе-хе.

Ну, суцешыў лысагаловы. З такімі не вельмі пагаворыш. Хіба на палітыку перакінуцца? Каб не было нудна ў чарзе стаяць.

— Як вы ацэньваеце барацьбу за прэзідэнцкае месца? — спрабую ўжо загаварыць на хвалюючую ўсіх тэму.

— Дзе? — не зразумеў флегматык.

— Там. У Расіі. Бачылі ж, як усё там закруцілася?

— Што закруцілася?

— Кажу ж, барацьба за пасаду прэзідэнта. Аж шэсць кандыдатаў прэтэндавала на месца.

— Дык усіх жа не абралі, а толькі аднаго. Ды і ці лепшага?

— А вам не ўсё роўна? Абы прэзідэнт.

— Э-э, не кажыце, каго выбралі, самага сапраўднага.

— Усе яны сапраўдныя.

— Ну, чаму ж. У кожнага была свая платформа. Свая праграма.

— Вам не ўсё роўна, якая ў каго была платформа? Гэта ж не ў нас, а там...

— Ясна, што „там". Як там не было, а ўсё ж старэйшы брат.

— Гэта калісьці быў, а цяпер усе роўныя — старэйшы і малодшы.

— Патрэбны цвёрдая рука і розум, каб стабілізаваць эканоміку. Накарміць народ, — аргументую сваю трывогу за асобу прэзідэнта.

— Што вы за іх перажываеце? Галоўнае, каб у нас усё было. Вось як тут зараз.

Тым часам над залай чуецца:

— Ка—са—а! Больш не выбівайце! Смятана канчаецца.

Лысы прабег позіркам па доўгай чарзе, пасля падыйшоў да стойкі, перагнуўся і зазірнуў у апусцеўшае эмаліраванае вядро.

— Ну, што там? — пытаюся разачаравана.

— Канчаецца, — уздыхнуў мой субяседнік.

— Хоць густая ці рэдкая?

— А нам усё роўна. Абы смятана.

Панурыя, мы ідзём з магазіна.

— Дык як вы думаеце, правільны выбар зрабілі расіяне, абраўшы першага прэзідэнта? — на развітанне запытаў я лысага флегматыка.

— А вам не ўсё роўна? — гнеўна кінуў той, хаваючы ў торбу парожні шкляны слоік. — Абы прэзідэнт!

**ІВАН САЧЫВЕЦ**

Пераклад
**Валерыя Бабея**

********************************************




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa

1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I I kwartał 1992 r. upływa 20 lutego 1992 r.

2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.

3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.500 zł. a od 1 stycznia 1992 r.-3000zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:

- grudzień - 12. 500 zł

-styczeń - 12. 000 zł

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.